PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК
БЕЛАРУСАЎ
У ПОЛЬШЧЫ

№ 11 (2079) ГОД XLI Беласток 17 сакавіка 1996 г. цана 70 гр. (7000 ст. зл.)

*Мікола Ваўранюк*

## Велічны юбілей

Наш шэф аказаўся асобай як найбольш адпаведнай, каб адкрыць святкаванне 40-годдзя „Нівы" — узрост яго такі ж, як і газеты, да таго яшчэ выгляд — доўгі, бы пройдзены „Нівай" шлях і худы, бы ейная каса. Прывітаў ён — як і выпадала б — айцоў-заснавальнікаў, былых журналістаў і карэспандэнтаў, сімпатыкаў, прыхільнікаў, усіх паважаных гасцей і паню Марысю, якая амаль столькі часу, колькі існуе тыднёвік, перачытвае, перапісвае і папраўляе ўсякіх пісакаў. Нас — цяперашніх „знакамітых" супрацоўнікаў — абяцаў пайменна віншаваць пры нагодзе наступнай гадавіны, праз 10 гадоў.

Рыхтуючыся да юбілею, на рэдакцыйных сходах у кожны панядзелак да абрыдзы абмяркоўвалі мы ўсе дробязі ўрачыстасці. Найгалоўным пунктам праграмы мела быць адзначэнне нас саміх спецыяльнымі медалямі ды паперамі. Але, у рэшце рэшт разбілася ўсё аб прыроднае гультайства — так і не знайшоўся майстра, які б заняўся арганізацыяй дэкарацый. З болем сэрца давялося адмовіцца ад такой эфектоўнай часткі святкавання. На шчасце, той час запоўнілі салідна падрыхтаваныя дакладчыкі (вядома, старая гвардыя!).

Пачатак быў як найгоршы. Афіцыйныя віншаванні, прывітанні, дэпешы і тэлеграмы прадвяшчалі надзьмутую і не менш нудную лінейку. Атмасферу расслабіў консул Міхась Слямнёў:

— Каб у рэдакцыі заўсёды панаваў сапраўдны плюралізм, вось вам маленькі сімвалічны падарунак.

І на стале сталі, у прыгожай „дыпламатычнай" упакоўцы, тры... пляшкі.

— Гэта правыя, — спадар консул паказаў на „Белую Русь", — гэта левыя, — палец тыцнуў у наклейку ўлюбёнага напітку былой партыйнай наменклатуры, водкі „Крышталь", — а гэта хай будуць цэнтрысты, — закончыў ён, рэкамендуючы „Белавежскую".

Далей усё паплыло-пацякло вельмі гладка. Адно курцы тармазілі канферэнцыю, раз-пораз патрабуючы перапынкаў.

А ў зале прамаўлялі „старыя" ніўцы. Віктар Швед, расказваючы пра сваё саракагадовае супрацоўніцтва з „Нівай", сціпла зазначыў, што больш было ў ёй ягоных публікацый, чымсці нумароў газеты. Наш галоўны, які пачынаў ужо скідаць напругу і якому свята пачынала падабацца, адразу падхапіў:

— Сарганізуем юбілей двухтысячнага верша Шведа ў „Ніве"!

Даклад Яніны Чарнякевіч пра супрацоўніцтва з найменшымі чытачамі разбудзіў дыскусію, адкуль узяўся загаловак дзіцячай старонкі „Зорка". Ці ад чырвоных зорак, якія горда ззялі на вежах маскоўскага Крамля, ці ад Віфлеемскай зоркі? Мікола Гайдук даказваў нават, што быў час, калі ўся „Ніва" дзеіла як дадатак „Зоркі"

Мабыць, з колішняга цеснага супрацоўніцтва „Нівы" са школамі і нам перадаліся ў спадчыну сякія-такія педагагічныя здольнасці, бо калі прамаўляў варшаўскі паляк Павел Казанэцкі, які беларускую мову вывучыў на „Ніве", то Вера Валкавыцкая не вытрывала:

— О Божа, як ён добра гаворыць! І „л" вымаўляе. Узяць яго на працу ў Беластоцкае радыё.

значэннем людзей памежжа.

— Нават дзеяча Беларускага грамадска-культурнага таварыства цяжка назваць беларусам, — казаў прафесар, — бо яго актыўнасць у сферы беларускасці зводзіцца адно да нядзелі. Тады ён нешта арганізуе, сустракаецца з народам, асвядомлівае людзей, а астатнія шэсць дзён у тыдзень займаецца сваімі справамі, якія не маюць ніякага дачынення да беларускасці. Тады ён карыстаецца выключна польскай мовай, а яго дзеці беларускай ужо і не ведаюць.



Першапачатковае напружанне і афіцыёз. Яўген Міранові (злева) і Мечыслаў Часноўскі ля дошкі.




Ніўскія патрыярхі: Мікола Гайдук (злева) і Георгій Валкавыцкі.

Ян Леанчук прадстаўляў пункт погляду польскага інтэлігента на „Ніву". Толькі невядома чаму ён пяць разоў перапрашаў за тое, што няўважліва чытае наш тыднёвік?

Парадаксальна, польскія журналісты найгорш зразумелі даклады, якія чыталіся па-польску. Так было з адной нясмелай прапановай Яна Леанчука, каб можа „Ніва" пачала змяшчаць крыху матэрыялу лацінкай, якая ў пазнейшых прэсавых інфармацыях вырасла да ролі найважнейшага пастулата дзеля абнаўлення газеты. Так было і з дакладам прафесара Андрэя Садоўскага, які гаварыў пра цяжкасці з самавызначэннем людзей памежжа.

Сакрат Яновіч дзеля аблягчэння будучай даследчыцкай працы прафесара ўвёў у навуку новую пасрэдную катэгорыю — „беларусападобенцы". Тое, што прайшла „Ніва", падсумаваў ён такімі словамі:

— Я нават сам здзіўляюся, што яшчэ жыву. Мы змагаліся! Ускінь тое, што мы перажылі на плечы нашых сыноў, то яны расплачуцца.

Георгій Валкавыцкі пазней даказваў, што, маўляў, не было так і дрэнна, што некаторыя яго калегі бачаць мінулае ў празмерна чорных барвах. Але яго мала слухалі, зачараваныя патры-

(Працяг на стар. 3)

*Ганна Кандрацюк*

## Клопаты з жаніцьбой

„Жанісь, каб дурні не звялісь!" — заяўляе беларуская народная прыказка.

Сапраўды, брат беларус не спяшаецца жаніцца! У многіх вёсках Беласточчыны нярэдка сустрэнеце атрады распітых няшчасных халасцякоў, якім не хапіла дзяўчат, шчасця або механізацыі. Праблема не толькі ў непрывабнасці прафесіі земляроба.

Беларус у мінулым не мусіў змагацца за жанчыну. *Жанячкай* займаліся бацькі, сваякі, адказныя за гэтую дзялянку сваты і сваццi. За свой шляхетны ўчынак малойчык жадаў яшчэ багатага пасагу. Сёння ўсё перавярнулася дагары нагамі. Багатая, поўная таемнай сімволікі і магіі вясельная абраднасць амаль счэзла. Яе астаткі дагараюць разам з вясковай цывілізацыяй. Адзіным жывым следам мінулай абраднасці засталася сённяшняя ментальнасць беларуса. Змены характару, як вядома, адбываюцца найпавальней. Успаміны пра жаніцьбу дзядзькі Хведара, народжанага ў 1911 годзе, пацвярджаюць вышэйсказанае.

**Хведар Хлябіч** з вёскі Рыбакі, што ў Міхалоўскай гміне, жаніўся ў 1935 годзе.

— У нашай вёсцы было многа дзяўчат. Кожную нядзелю, вечарком, ладзілі ў нас забаву. Бо ісці дзяўчыне на другую вёску не прыстоіла. Гэта быў бы вялікі *ўстыд*.

Хведар Хлябіч не быў абы-якім кавалерам, іграў у аркестры. Сам навучыўся іграць і на скрыпцы, і на гармоніку. Бо тады такія аркестры былі: гармонік, скрыпка ды бубны. Забавы, ах якія ж бывалі забавы! Танцавалі толькі „ўправа" і „ўлева", абэркі, вальсы. Бывала, што і на нагу, нехта багацейшы, дзяўчыне наступіць. Бо тады басанож на забаву хадзілі. Дзяўчаты ў парцяках сваёй работы, з доўгімі касамі, такія прыгажуні! Выдавалі іх замуж у сямнаццаць-васемнаццаць гадоў. Да той пары не прыстоіла з кавалерам перайсціся вёскай. А каб пайсці ўдваіх так за вёску, ой!

Не ўсе святыя такія былі, смяецца дзядзька Хведар. Дзяўчаты, пра што ўсе ведалі, спалі ў стадоле. Да іх па начах прыходзілі кавалеры, нават з чужых вёсак. Сам дзядзька як раз прытуліўся да аднае прыгажуні, то вярнуўся ў сарочцы з чырвонымі плямамі.

Кавалерам, вядома, усё было можна. Мода была такая. І бацькі нічога не гаварылі.

З жаніцьбой было інакш. За каго скажуць, за таго і пойдзеш. Добры быў час, смяецца дзядзька Хведар. У яго ўсім кіраваў швагер-балаховец, бо маці ўжо памерла, а бацька стары быў. Сваю першую жонку (жаніўся ён тройчы) пабачыў на Спаса ў Ялоўцы. Спа-

(Працяг на стар. 3)

## МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Gabinet Ministrów Republiki Białoruś wydał nowe przepisy o ruchu turystycznym. Zagraniczni turyści w Białorusi podczas pobytu dłuższego niż trzydniowy muszą rejestrować swoje paszporty. O rejestrację paszportu nie musi ubiegać się obcokrajowiec mieszkający w hotelach — robi to automatycznie obsługa przy meldowaniu. Przybyszom nie wolno przebywać w strefie przygranicznej, chyba że mają specjalne zezwolenie białoruskiego MSW lub służb granicznych. Niestosowanie się do przepisu postanowienia powoduje skrócenie terminu pobytu lub wydalenie z kraju. Karą dodatkową może być trzyletni zakaz wjazdu do Białorusi.*

*Kurier Poranny, nr 43*

* * *

*Rosyjska Duma skierowała wczoraj do komisji projekty ustaw, które przewidują unieważnienie porozumień białowieskich z 1991 roku. Ustawy te zdaniem wiceprzewodniczącego Dumy komunisty i nacjonalisty Siergieja Baburina stworzą polityczne i prawne przesłanki do odtworzenia Związku Radzieckiego. W nowej Dumie zwolennicy tej koncepcji mają zdecydowaną większość.*

*Gazeta Wyborcza, nr 44*

Вырашаецца справа гімну **незалежнай** Беларусі. Ці можа гэта сёння быць штосьці больш актуальнае чым словы: „Мы — беларусы з братняю Руссю разам шукалі к шчасцю дарог"?!

* * *

*Związek Młodzieży Białoruskiej stara się uaktywnić kulturalnie młode pokolenia Białorusinów w Polsce. Dorobek ma duży... —* інфармуе

*Gazeta w Białymstoku nr 46*

* * *

*W lwowskich domach nie ma wody. To znaczy powinna być, trzy-cztery godziny dziennie, raz w jednym końcu miasta, raz w drugim. Ale nie ma i nikt nie wie, kiedy się pojawi, choć na klatkach schodowych śródmiejskich kamienic rozwieszono rozpiski: woda między siódmą a ósmą. Wody nie było już za sowieckiej władzy, zimno przyszło do Lwowa za samostijnej Ukrainy. Ludzie marzną w domach, w urzędach, w restauracjach i w sklepach. Kamienic się nie ogrzewa, bo nie ma pieniędzy, a gdyby nawet były, na niewiele się zdadzą, instalacji gazowej nie remontuje się od niepamiętnych czasów, więc grzać można mało i ostrożnie.*

*Gazeta-Magazyn, nr 8*

* * *

*Зялёны колер лукашэнкаўскага сцягу лічыцца прыкметай мусульманскага свету. Такога колеру няма ні ў адной еўрапейскай краіне. Арнамент які ёсць на гэтым сцягу вышывалі калісь беларускія жанчыны, калі рыхтаваліся да смерці. Новы герб дзяржавы адразу атрымаў у народзе назву „пахавальны вянок Рэспублікі Беларусь". Але ёсць сэнс звярнуць увагу на некаторыя яго элементы. Чырвоная зорка зверху — сатанінскі знак, уведзены ў бальшавіцкую сімволіку Львом Троцкім. Контур Беларусі, які лунае над зямной куляй, — гэтае яе душа, што пакідае цела. Сонца якое заходзіць узмацняе гэта адчуванне.*

*Наша слова, н-р 6*

* * *

*Dziękuję za wszystko, co ci ludzie zrobili dla Białorusinów w Polsce — mówił premier do tych, którzy pracują w BTSK. Działalność BTSK to wkład w porozumienie między Polską i Białorusią, stwierdzili w listach gratulacyjnych prezydenci Polski i Białorusi Aleksander Kwaśniewski i Aleksander Łukaszenko. Jan Syczewski jako pierwszy Białorusin żyjący poza granicami Republiki Białoruś został udekorowany medalem przyznawanym przez prezydenta Aleksandra Łukaszenkę. Włodzimierz Jużwiuk, wieloletni działacz otrzymał od prezydenta list gratulacyjny —* піша

*Przegląd Prawosławny, nr 3*

* * *

*Premier Włodzimierz Cimoszewicz pierwszą „zagraniczną" wizytę złożył w Białymstoku. Odbył spotkanie z wicepremierem Białorusi Władimirem Rusakiewiczem, a po południu wysłuchał Koncertu Galowego III Festiwalu Piosenki Białoruskiej. Przebojem imprezy był utwór „Mnohaja lieta", który dedykowano premierowi.*

*Kurier Podlaski, nr 39*

*Patologizacja życia w wojsku postępuje równolegle z klerykalizacją. Na etaty psychologów do udzielania pomocy żołnierzom w stresogennych sytuacjach zabrakło pieniędzy. Utrzymanie Ordynariatu Polowego kosztowało budżet państwa w 1995 r. 75,5 mld zł. Natomiast oficjalnie liczba samobójstw żołnierzy wzrosła do 80. „Fala" stała się powszechną, niemal jawną subkulturą terrorystyczną w wojsku. Samozadowolenie ordynariatu i basujących mu mediów przekracza natomiast granice przyzwoitości.*

*Polityka, nr 39*

* * *

*Już co czwarta prostytutka w Niemczech pochodzi z krajów Europy Środkowej. W Berlinie Polki pod względem liczebności lokują się na drugim miejscu po Tajkach. W tym roku mogą wyprzedzić azjatyckie piękności. W Polsce zorganizowane wyjazdy dziewcząt na zachód przypominają handel niewolnikami w XVIII i XIX wieku. Jadą kobiety dorosłe i nastolatki, profesjonalistki i amatorki, w większości świadome celu podróży, zachwycone perspektywą łatwego i dużego zarobku. Gdy wpadną w ręce policji udają, że były zmuszone do prostytucji, w kraju czynią tak ze wstydu przed swoimi narzeczonymi lub mężami. Dla sutenera eksportujące-go towar kobieta warta jest 500 — 6000 marek. Im młodsza, tym droższa.*

*Wprost, nr 8*

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Справа дарогі-калідора з Беларусі ў Калінінград цераз тэрыторыю Польшчы,** аб планах будовы якой заявілі ў Маскве прэзідэнты Расеі і Беларусі, выклікала недаўменне і пратэсты польскіх палітыкаў. Прэзідэнт РП **Аляксандр Квасьнеўскі** сказаў, што прапанова пабудаваць на тэрыторыі Польшчы транзітную аўтастраду з Беларусі ў Калінінград — непрымальная. А міністр нацыянальнай абароны **Станіслаў Дабжанскі** сказаў у сваю чаргу, што ніводзін салдат не будзе ахоўваць экстэрытарыяльны калідор у Польшчы, таму што такога калідора не будзе.

**Нацыяналісты** з Партыі нацыянальнага адзінства Румыніі, якая ўваходзіць у састаў урадавай кааліцыі, патрабавалі спыніць перагаворы наконт трактата аб дружбе з Венгрыяй ды абвінавацілі Будапешт і партыю венгерскай меншасці ў Румыніі ў „дзеяннях супраць румынскай дзяржавы". Венгерская меншасць у Румыніі, якая налічвае 1,7 млн. чалавек (7,1% ад агульнай лічбы насельніцтва), пражывае ў Трансільваніі, у паўночна заходняй Румыніі.

Рашэннем Управы Рады Міністраў будынкі **Супрасльскага манастыра** перададзены неадплатна Праваслаўнай Царкве. У выдадзенай з гэтай нагоды заяве архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава** падкрэсліў: „Рашэнне пана міністра Л. Мілера ў справе перадачы часткі манастырскіх будынкаў разам з нерухомасцю ў Супраслі прымаю са спакоем. Дзякую Яму за гэта. З'яўляецца яно пацвярджэннем ранейшых рашэнняў у гэтай справе міністраў Яна М. Ракіты і М. Стронка і служыць выпраўленню гістарычных няправільнасцей. Так трэба яго ўспрымаць".

**У Міністэрстве нацыянальнай абароны** ў Варшаве ў прысутнасці праваслаўнага ардынарыя Войска Польскага архіепіскапа **Савы** прынеслі прысягу чатыры новыя праваслаўныя капеланы: а. капітан **Аляксандр Канаховіч** з вайсковага прыхода ў Вроцлаве, а.капітан **Анатоль Гайдучэня** — настаяцель вайсковага прыхода ў Цехацінку, а. капітан **Пётр Лянчэўскі** і а. паручнік **Ігар Сегень** — накіраваныя на душпастырскую працу ў Надвіслянскія ваенныя часці Міністэрства ўнутраных спраў.

Прэзідэнт РП **Аляксандр Квасьнеўскі прыняў прадстаўнікоў літоўскай меншасці** з Пуньска. Члены дэлегацыі праінфармавалі прэзідэнта аб складанасцях у фінансаванні літоўскіх школ, будове літоўскага дома культуры, а таксама аб справе адкрыцця малога прагранічнага руху. Літоўцы прапанавалі прэзідэнту стварыць установу ўпаўнаважанага па справах нацыянальных меншасцей.

Мытнікі з Кузніцы-Беластоцкай выявілі чарговую **кантрабанду ікон**. На гэты раз у цягніку з Санкт-Пецярбурга у вагонных туалетах знайшлі яны 10 драўляных абразоў, завешаных на шнурках за ізаляцыяй рэзервуараў. Ніхто з пасажыраў не прызнаўся да выяўленых ікон.

**Раённая пракуратура ў Гайнаўцы** арыштавала шэсць маладых мужчын, якія абвінавачваюцца ў рэкеце. Нядаўна — паміж Мілейчычамі і Кляшчэлямі здарыліся дарожныя напады, у якіх пацярпелі **грамадзяне Беларусі**. У канцы лютага паліцыя затрымала чачэнца, рускага і па двух палякаў і беларусаў — магчымых удзельнікаў нападаў. Трох падазроных ужо прызналіся да ўдзелу ў злачынствах.

## Праз тыдзень у „Ніве"

- 79 гадоў таму беларусы аб'явілі незалежнасць свае Бацькаўшчыны.
- Размова Міколы Ваўранюка з Канстанцінам Майсенем пра будучыню Беларускага музея.
- Праваслаўныя прыходы Беластока.

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

**Лакаматыў інтэграцыі**

Буйнамаштабны дагавор, які падпішуць у сакавіку Расея і Беларусь, вызначыць лёс наднацыянальных органаў улады і адзінага бюджэту, — заявіў на прэс-канферэнцыі ў Маскве Аляксандр Лукашэнка. Па яго словах адзіны бюджэт дазволіць ажыццяўляць фінансаванне сумесных расейска-беларускіх праграм ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і ў ваенна-тэхнічнай галіне. Дагавор паміж Расеяй і Беларуссю павінен закрануць вельмі глыбокія аспекты інтэграцыі дзвюх краін, лічыць Лукашэнка. Ён падкрэсліў, што яму хацелася б, каб падобныя дагаворы былі падпісаны таксама з Казахстанам, Узбекістанам і Украінай. У сваю чаргу спікер Дзяржаўнай Думы Расеі Генадзь Селязнёў пахваліў Беларусь за тое, што зараз выступае яна лакаматывам у інтэграцыйных працэсах паміж рэспублікамі былога СССР.

**Фінансавыя вынікі**

Адным з вынікаў паездкі прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў Маскву было падпісанне пагаднення аб урэгуляванні пытанняў фінансавага характару паміж Беларуссю і Расеяй. Прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір заявіў, што для Беларусі гэта вельмі важны дакумент, які абазначае перш за ўсё аднолькавыя стартавыя ўмовы для эканомікі ў ходзе далейшай інтэграцыі, змяншэнне даўгоў па газе (600 млн. дол. ЗША), а таксама спісанне крэдытаў, атрыманых ад Расейскай Федэрацыі (470 млн. дол. ЗША).

**Палітычнае шоу**

Каменціруючы вынікі візіту прэзідэнта РБ у Маскву, экс-спікер Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч сказаў: — Выратаванне нашай эканомікі трэба шукаць, таму што за студзень вытворчасць зноў упала амаль на 10%. Значыцца, эфектыўнага падыходу да рэфармавання эканомікі ў прэзідэнта няма і трэба яму рабіць нейкае палітычнае шоу: паглядзіце, як мы выратуем эканоміку. А па сутнасці ў нас закручваюцца гайкі, падатковы прэс на вытворцаў павялічваецца. Урад вядзе чыста фіскальную палітыку — палітыку адабраць, а не стымуляваць падаткамі. Гэтае шоу паляпшае на нейкі час сітуацыю кіраўніка, у якога развальваецца гаспадарка, адцягвае гэты час, калі трэба ўжо гаварыць чаму ў нас усё ідзе на спад.

**Новыя падручнікі**

Пад старшынствам намесніка прэм'ер-міністра Уладзіміра Русакевіча адбылося чарговае пасяджэнне Дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы новых падручнікаў у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы. Пасля дэталёвага абмеркавання камісія рэкамендавала да выдання два падручнікі па геаграфіі, чатыры па літаратуры і адзін вучэбны дапаможнік па гісторыі. Асобныя рукапісы новых падручнікаў накіраваны аўтарам на дапрацоўку.

**Парадкаванне друкарскай базы**

Кабінет Міністраў РБ у мэтах упарадкавання дзяржаўнага рэгулявання паліграфічнай дзейнасці суб'ектаў гаспадарання прыняў пастанову, згодна з якой набыццё паліграфічнага абсталявання суб'ектамі гаспадарання ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца з дазволу Дзяржаўнага камітэта па друку. Суб'ектам гаспадарання, якія ажыццяўляюць паліграфічную дзейнасць, неабходна да 1 красавіка 1996 г. атрымаць у Дзяржаўным камітэце па друку ліцэнзіі на гэты від дзейнасці.

**Вайсковы абмен**

Група ваеннаслужачых Брэсцкага гарнізона пабывала ў Польшчы. У праграме візіту — знаёмства са службай, жыццём і бытам калегаў з Войска Польскага. Былі праведзены спаборніцтвы па баявой падрыхтоўцы. А тым часам адну з часцей Брэсцкага гарнізона наведалі прадстаўнікі украінскай арміі.

**Хворая армія**

У арміі выяўлена значная колькасць ваеннаслужачых нязздатных па стане здароўя да воінскай службы. Неглыбокае вывучэнне асобы прызыўнікоў работнікамі ваенкаматаў, а таксама памылкі, якія дапускаюць медыцынскія камісіі, садзейнічалі прызыву на тэрміновую вайсковую службу асоб, што маюць псіхічныя і фізічныя недахопы. У сувязі з гэтым Генеральная пракуратура прапанавала міністру аховы здароўя неадкладна прыняць меры па ўдасканаленні існуючай сістэмы медыцынскага агляду прызыўнікоў і прыцягнуць да строгай дысцыплінарнай адказнасці медыцынскіх работнікаў, якія дапусцілі неабгрунтаваны прызыў такой моладзі.

**Структура беспрацоўя**

Больш як 143 тысячы чалавек зарэгістраваны ў якасці беспрацоўных у органах службы занятасці насельніцтва рэспублікі на канец студзеня г.г. Каля 27% з іх згубілі работу ў выніку ліквідацыі прадпрыемстваў і арганізацый ці былі звольнены па скарачэнні штатаў. 24% звольніліся па асабістым жаданні і яшчэ каля 11% склалі выпускнікі агульнаадукацыйных школаў і навучальных устаноў.

# У заснежанай Нараўцы

Каб не ветлівасць Юркі Ляшчынскага з Беластоцкага радыё, які прапанаваў супольны выезд, цяжка было б дабрацца ў Нараўку ў апошні 29-ы дзень лютага. Дарога з Беластока была ўся ў снезе, лёдзе і выбоінах. Толькі дзякуючы прафесіяналізму шафёра Стася Косткі ні разу мы не заселі ў сыпкай гурбе, ані не з'ехалі ў кювет.

У Нараўцы чакаў ужо нас дырэктар Гміннага асяродка культуры **Андрэй Скепка**. Будынак, у якім ён працуе — новы, прасторны, са шматлікімі большымі і меншымі памяшканнямі — як быццам паказчык стану культуры ў гміне.

— Уключна з бібліятэкамі ў Нараўчанскай гміне ў культуры працуюць 17 чалавек, — кажа спадар Скепка, — а часам, калі трэба, то і васемнаццаты — падрадчык. Людзі стараюцца, войт і старшыня Гміннай рады спрыяюць, дык і эфекты ёсць. У мінулым годзе, напрыклад, заваявалі другое месца ў агульнаваяводскім конкурсе „Самаўрады — так, самота — не". Апярэдзіла нас толькі гміна Новы Двор, а гэта значыць, што нямала было розных імпрэзаў для жыхароў ваколіцы.

Юрка дакладна запісаў на магнітафон дасягненні Нараўкі ў галіне культуры, а я адзначу толькі, што ў першай палове гэтага года рыхтуюцца там два мерапрыемствы ваяводскага значэння: 130-годдзе Кола вясковых гаспадынь (тэрмін яшчэ вызначаны недакладна — май) і юбілейныя 25-ыя Сустрэчы з фальклорам (15-16 чэрвеня). Нараўка два разы была ўжо гаспадаром Сустрэч з фальклорам, з абавязкамі справілася паспяхова, таму і даверылі ёй арганізаваць юбілей.




*Дырэктар Яўген Валкавыцкі дае інтэрв'ю ў сваім будучым кабінеце.*

Беларускі фальклор расслаўляюць „Цаглінкі" з Ляўкова ды два фальклорныя калектывы — маладзёжны і „дарослы" — з Нараўкі. Спадар Скепка абяцае, што напэўна адродзяцца „Сямяне" з Семяноўкі.

Гмінны асяродак культуры, калі ўязджаць у Нараўку ад Ляўкова, з правага боку. На другім баку, у пэўнай адлегласці ад шашы, стаяць чатырохпавярховыя блёкі мясцовага жыллёвага кааператыва. Каля іх вырастае нейкі будынак, з дзівосным дахам, з квадратнымі і круглымі вежамі, з ганкамі і дзядзінцамі. Гэта новая школа.

— Мы маглі б выбраць самы танны праект і пабудаваць нейкую прастакутную клуню, — кажа дырэктар Пачатковай школы ў Нараўцы і, адначасна, старшыня Гміннай рады **Яўген Валкавыцкі**, — але мы хацелі, каб архітэктура школы пасавала да Дома культуры і амбулаторыі. Ну і, праўду сказаўшы, будзе ў яе нейкі іншы выгляд, нетыповы і больш цікавы. Мне падабаецца, што няма прастакутных развязак. Кошт пабудовы павышае тое, што мы вырашылі пахаваць у сценах усе санітарныя трубы, забяспечыць ад дзяцей элементы, якія хутка маглі б паламацца. Але можа на рамонт не трэба будзе хутка выдаткоўваць грошай.

Войт **Мікалай Павільч** лічыць, што рэальны тэрмін заканчэння гэтай інвестыцыі — лета 1997 года.

— Можна было б і хутчэй, калі б было дастаткова грошай, — кажа ён, — але лепш планаваць без лішняга аптымізму, каб потым не расчаравацца.

Нараўка — нябедная гміна. Мінулагодні бюджэт завяршыўся сумай 32 мільярдаў. Хаця войт зазначае, што ў іх трэба крыху інакш лічыць, бо яны перанялі ўжо раней школы і ў бюджэт уключана асветная субсідыя. Асноўныя выдаткі — гэта дарогі, водаправоды, каналізацыя.

Нараўка прыступіла да Згуртавання гмін Белавежскай пушчы, а войт стаў сакратаром Управы Згуртавання. У 1990 годзе Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне выступіла было з падобнай ідэяй яднання — Саюзам гмін усходняй Беласточчыны. На ідэі, аднак, усё і кончылася. Чаму сёння ажыццявілася тое, што было немагчымае пяць гадоў таму?

— Тады была гэта яшчэ новая ініцыятыва, — кажа Мікалай Павільч, — ну і, мабыць, гміны пабаяліся страты часткі сваёй незалежнасці на карысць Саюза (Związku). Структура Згуртавання (Stowarzyszenia) больш свабодная і пакідае больш самастойнасці гмінам. Але, відаць, найважнейшае тое, што тады было замнога палітыкі. У нас людзі палітыкі баяцца. Зрэшты, я таксама думаю, што такія справы, як рамонт дарог ці пракладка водаправодаў абыходзяцца без вялікай палітыкі.

Са снегам Нараўчанская гміна таксама, пакуль, павінна справіцца адна.

**Мікола Ваўранюк**



*Казачная школа ў Нараўцы.* Фота М. Ваўранюка

# Клопаты з жаніцьбой

*(працяг са стар. 1)*

дабалася. Пагаварыў з ёю і запрасіў у булачную на гарбату. Але на забаву да яе не паехаў, бо сям'я строіла яму дзяўчыну з суседняй вёскі. Што ж будзе, калі даведаецца гэтая выбраная сям'ёй? Дзяўчына з суседняй вёскі ўсё ж не схацела пайсці за Хведара. Настроілі ёй багацейшага і больш прадпрымальнага кавалера. Дзядзька Хведар не кінуўся ў роспач пасля такога, бо не кахаў тае дзяўчыны.

Два чарговыя гады сустракаўся са сваёй прыгажуняй на Спаса ў Ялоўцы.

— Хто ў цябе ў хаце? — папытаўся ён сваёй Ніны.

А яна, што яшчэ сястра старэйшая ў яе ёсць.

— Ого, нічога не будзе... — тады быў такі час, па чарзе замуж дачок выдавалі.

— Не бойся, — сказала тады Ніна, — у сястры ёсць ужо хлопец. Як выйдзе ён з турмы, то пажэняцца.

Дзядзька Хведар ведаў, што прыйшоў яго час. У хаце паўтаралі: „Дакуль будзеш яшчэ хадзіць". Асабліва брацiха. Вядома, работы была процьма, гаспадарка ж вялікая.

У сваты паехаў са шваграм.

— Я вельмі баяўся, — успамінае дзядзька, — бо па дарозе швагер заявіў, што будзе патрабаваць трыста злотаў пасагу. Тады за такія грошы тры каровы выходзіла.

Заехалі ў сваты адвячоркам; Нінчын бацька сустракае:

— Хто вы такія?

— Мы — заблудаўскія жыды, хочам цялушку купіць, — такая была традыцыя.

— Якую вам трэба?

— Гэтую, чарнявую, — паказалі на Ніну Хведар і яго сват.

Стаялі найперш перад бэлькай, бо такія забабоны былі. Пазней, як распівалі паўлітэрку, загаварыла будучая цешча:

— Мы то п'ем, яле як вы заспяваеце вялікі пасаг, то вяселля не будзе. — Не былі яны багацеямі. Якраз адбудавалі спаленую хату.

— Як дасце сто злотаў, то і добра, — заявіў швагер-балаховец.

Маладому аж цёмна ў вачах зрабілася ад нечаканасці. Настрашыў, жартаўнік, трыстамі злотамі!

Праз нядзелі тры вяселле згулялі.

— Была такая мода, — пацвярджае дзядзька Хведар, — што пасаг поўнасцю да вяселля плацілі. А мне далі восемдзесят злотаў, апошнее пазней даплаціць паабяцалі. Многа было такіх хлопцаў, што, не атрымаўшы поўнага пасагу, з-пад вянца ўцякалі!

Дзядзька Хведар не быў такі прынцыповы. Нічога пра пасаг пры царкве не сказаў. Адрозніваўся ад сваіх калег.

Тады дзяўчаты не толькі плацілі пасаг, але і куплялі шлюбны касцюм кавалеру. Дзядзька Хведар купіў за сваё. За добрае сэрца шанавалі яго ўсе жончыны родныя. Цешча аднойчы параіла яму нават, каб браўся за палку, калі б Нінка не была паслухмяная.

— Такая была мода! — усміхаецца дзядзька Хведар, сёння васьмідзесяціпяцігадовы пенсіянер.

Так пажаніліся яго дзяды, прадзеды, калегі і многія дзеці. Традыцыя парвалася ў шасцідзесятыя гады, калі маладыя хлынулі ў горад.

— Калісь было файней! — смяецца дзядзька Хведар Хлябіч з Рыбакоў.

**Ганна Кандрацюк**

# Велічны юбілей

*(працяг са стар. 1)*

ярша-народніцкім ягоным выглядам. Побач, не менш дастойна, з сівой барадой, прэзентаваўся колішні яго намеснік — Мікола Гайдук. У галаве неаднаго з бязвусых цяперашніх пачаткоўцаў прамільгнула думка, каб жа так годна паказацца духоўным спадкаемцам праз наступныя сорак гадоў!

Канферэнцыя канферэнцыяй, але мы ў „Ніве" звычайныя людзі, не ад таго, каб выпіць і закусіць. Таму з нескрываемай радасцю перайшлі да наступнага пункта праграмы, а менавіта зышлі ва універсітэцкую сталоўку, якую наш галоўны назваў нават рэстаранам, на абед.

І тут дазволю сабе асабістую рэфлексію: на будучыню трэба выраўняць



*Мы ў „Ніве" любім выпіць ды закусіць.*

дыспрапорцыі часу між канферэнцыяй і абедам. Або спалучыць гэтыя дзве часткі ў адно.

**Мікола Ваўранюк**
**Фота аўтара**

P.S. Пакрыўджаным, якія ў сваіх вачах заслужылі на ўзнагароды, вестка з апошняй хвіліны: на 50-годдзе „Нівы" будзеце ўзнагароджаны медалямі імя Бядулі.

# „Паціху ўсё пагасае"

*Нядаўна я атрымаў ліст ад знаёмага, жыхара гарадскога пасёлка Любча, каля Наваградка. Прапаную некаторыя яго фрагменты, якія датычаць апошніх падзей і наогул цяперашняй сітуацыі ў Беларусі. Паколькі даю гэты матэрыял без згоды аўтара, не буду называць яго прозвішча. Гэта старэйшы ўжо чалавек, да вайны вучыўся ў Наваградскай беларускай гімназіі. За любоў да Бацькаўшчыны пасля вайны трапіў у сібірскія лагеры, з якіх выйшаў у хрушчоўскую адлігу. Дык і цяпер у яго словах адчуваецца боль за лёс Беларусі, за тое, куды яна крочыць.*

*Мікола Ваўранюк*

(...) Як сам ведаеш, на выбарах у 13-ы парламент нашым дэмакратам, асабліва БНФ, не пашанцавала, бо адбываліся яны па лукашэнкаўскаму сцэнарыю. Хто ў іх перамог, сам ведаеш. Разумеецца і „спікера" — як у нас цяпер модна называць старшыню — адпаведнага выбралі — лідэра аграрнікаў Шарэцкага Сямёна Георгіевіча. Цяпер левыя і аграрыі ўсюды перамагаюць — гэтак, як і ў вас на прэзідэнцкіх выбарах. У вас прадстаўнікі ўладных структур хаця гавораць на роднай мове і шануюць свае гістарычныя дзяржаўныя сімвалы, а нашы толькі зневажаюць і ганьбуюць усё сваё роднае.

І падумаць толькі, што гэты навaспечаны „спікер" радзіўся і вырас недалёка ад Любчы, нейкіх 7 кіламетраў, у вёсцы Лаўрышава, якая праславілася сваім першым беларускім Евангеллем, яшчэ пісаным ад рукі ў Лаўрышаўскім манастыры, заснаваным калісьці князем Война́лкам, сынам Міндоўга. І ён, бач, гэты „спікер" не ўмее гаварыць па-беларуску, а яшчэ прафесар, доктар эканамічных навук. А сёлета, між іншым, будуць адбывацца ў Наваградку і ў тым жа Лаўрышаве вялікія духоўныя ўрачыстасці ўсеславянскага маштабу. Сюды прынясуць ці не толькі „Непагасную лампаду духоўнасці", запаленую недзе ў Ерусаліме ад агню ў Гроба Гасподня, калі не памыляюся.

Дык вось так, Мікола, у нас прасвятлення няма, суцэльны мрок і прасвету ў канцы тунеля не відаць і невядома, калі там засвеціць хоць маленькі агеньчык, хоць і носяць па Беларусі гэтую „Непагасную лампаду".

Што ж, паглядзім на якой мове наш новы „спікер" будзе весці пасяджэнні ВС Беларусі. Бо сваё першае слова да новаабраных дэпутатаў гаварыў па-руску. А вось можа ён адумаецца, што сорамна доктару навук не ўмець гаварыць на роднай мове, тым больш дзяржаўнай. Я прыпамінаю, як мы былі прыемна ўражаны, калі яго папярэднік Мечыслаў Грыб адразу павёў пасяджэнні ВС па-беларуску, хоць, як сам гаварыў пасля, ніколі ў дамашніх абставінах гэтай мовай не карыстаўся. Дык няўжо доктар навук тупейшы за генерала МУС Беларусі? (...)

Сягоняшняе маладое пакаленне апалітычнае і апатрыятычнае. Яго мала цікавіць наша гісторыя і далёкая, і блізкая. Аб гэтым сведчыць і рэферэндум, і апошнія выбары. Камуністы і партыйныя ветэраны дружна і дысцыплінавана прагаласавалі за сваіх кандыдатаў кругом і ў гарадах, і ў вёсках, а моладзь паставілася да выбараў пасіўна, абыякава, лічы, праігнаравала іх і вось цяпер ва ўладных структурах маем тое, што маем.

І прыходзяць думкі, што пра будучыню Беларусі няхай турбуюцца нашы дзеці і ўнукі. Якую яны яе збудуюць, у такой і будуць жыць. А такім як я, старым дзядам, пара падумаць пра выратаванне душы і непазнанну невядому вечнасць. На першы дзень Каляд, 7 студзеня, мне ўжо стукнула 80 гадоў. Няма ўжо ранейшага руху, энергіі, запалу. Паціху ўсё пагасае.

# Адыходзіць і вяртаецца...

Інтэграцыя Беларусі і Расіі ідзе паспяхова. Сапраўды невядома, што яшчэ дзеліць абедзве дзяржавы. Да беларуска-расейскай супольнасці неўзабаве праўдападобна далучацца Казахстан і іншыя азіяцкія рэспублікі былога Савецкага Саюза. Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма падчас візіту ў ЗША, хаця вельмі ветліва ўспрымаўся амерыканскім урадам, аднак атрымаў толькі абяцанне дапамогі ў закрыцці Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Ельцыну наадварот, усе хочуць дапамагаць, каб толькі астаўся пры ўладзе. Міжнародны валютны фонд, кантраляваны амерыканцамі, выдзеліў 10 мільярдаў долараў на падтрымку расейскай гаспадаркі, у тым ліку і на фінансаванне інтэграцыйных працэсаў з краінамі былога СССР. Нямецкі канцлер Гельмут Коль заявіў, што ніхто на Захадзе не будзе спяшацца з пашырэннем Паўночнаатлантычнага дагавору і што справу трэба яшчэ раз уважліва разглядзець. Украіна, якая астаецца ў залежнасці ад расейскай гаспадаркі, не мае вялікіх шанцаў на захаванне сваёй незалежнасці. Тым больш, што наймацнейшыя партыі краіны — камуністычная і сацыялістычная — выказваюць зацікаўленне вяртаннем Украіны ў структуры, нагадваючыя савецкую сістэму. З вонкавых саюзнікаў, апрача Польшчы, так у сапраўднасці не відаць нікога. Прыклад успомненай Польшчы паказвае, што далучэнне да заходнееўрапейскіх структураў гэта надта складаны працэс і ніводная былая савецкая рэспубліка не мае ніякіх шанцаў на вырашэнне сваіх эканамічных ці палітычных праблем на гэтым шляху. Захад не хоча ні Польшчы, ні Чэхіі, ні тым больш Балгарыі, не ўспамінаючы ўжо пра Украіну ці Літву. Захад забедны, каб фінансаваць архаічныя гаспадаркі гэтых краін і заслабы, каб утрымаць тут нейкі палітычны парадак, маючы супраць сябе Расію. Няма сумненняў, што на тэрыторыі былога СССР у найбліжэйшым часе палітычны і ваенны стан гэтай прасторы поўнасцю будзе фарміраваць Расія.

Сотні гадоў гаспадары Крамля стварылі імперыю, дзесяткамі гадоў змагаліся за доступ да Балтыйскага і Чорнага мораў. І раптам без ніякіх відавочных прадпасылак імперыя развалілася. Было б чымсьці дзіўным, незразумелым і ненатуральным, каб усе змірыліся з такім ходам падзей. Хаця працэс развалу кожнай імперыі непазбежны, але трывае ён часам так доўга, як яе стварэнне. На прыкладзе Рымскай, Візантыйскай, Арабскай, Турэцкай, Брытанскай імперый відаць адну супольную прыкмету — імперыя ў апошняй стадыі заўсёды адыходзіць, але зараз вяртаецца на папярэднія пазіцыі. Страшэнна пры тым слабее, а імперыяльная ўлада з часам становіцца сімвалічнай.

Праўдападобна на Усходзе на працягу найбліжэйшых гадоў будзе існаваць нейкая недасканалая копія Савецкага Саюза. Гэта было б згоднае з логікай гістарычных працэсаў. Але таксама паводле гэтай самай логікі непазбежная і незалежнасць Беларусі. Шкада толькі, што не ўсе будуць маглі дачакаць паспяховага завяршэння працэсу адраджэння беларускай дзяржаўнасці. Усялякія Лукашэнкі могуць на нейкі час пазбавіць народ свабоды і годнасці, але не адбяруць людзям памяці. У 1918 г. беларуская дзяржава існавала больш як ідэя, чым рэчаіснасць, але колькі ж пакаленняў магло да яе адклікацца. Дзяржава, існуючая ў 1990-1994 гадах была рэальнай, мела гістарычныя сімвалы, палітычныя планы на XXI стагоддзе, магчымасці самастойна рэалізаваць унутраную і замежную палітыку. Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг запамятаў нават той, хто не пераносіў гэтых сімвалаў. Сёння астаецца толькі зрабіць усё, каб памяць пра іх не загінула, а новыя пакаленні прывернуць належную ім пашану.

**Яўген Міpановіч**

# Дзе ж вы, скарбы продкаў!

За сто кіламетраў на поўдзень ад Мінска ў квецені зялёных садоў раскінуўся невялічкі, але адзін са старэйшых гарадоў Беларусі — Слуцк, калісь называлі яго Случэск, Слуцак. Гісторыя гэтага славянскага гарадка, багатая і цікавая, вядзе ад 1116 года, калі „князь менскі Глеб ваяваў дрыгавічы і Случэск спаліў". Так упершыню ўспамінаецца ў летапісе „Аповесці мінулых гадоў", але сама падзея сведчыць аб тым, што горад узнік значна раней.

У канцы XII ст. утварылася Слуцкае княства са сталіцай у г. Слуцку. Адным з першых князёў быў унук вядомага князя Уладзіміра Манамаха. Потым, даўжэй за ўсіх княжылі Алелькавічы — у агульным складзе 200 гадоў. Пасля іх, крыху менш, — Радзівілы.

Год ад году Слуцк буйнеў і прыгажэў, а к XVII ст. ператварыўся ў першакласную крэпасць. А колькі разоў рабілі на яго напады татары! Але мужна стаялі і храбра адбіваліся слуцакі.

Пры княжым двары ў Слуцку ў XVII — XVIII стст. працавала друкарня, дзе выдаваліся кнігі на польскай мове на рэлігійныя, ваенныя і іншыя тэмы, мастацкія творы, падручнікі. Існаваў тэатр, была створана балетная школа, дзе працавалі вядомыя майстры сваёй справы — Антоні Пуціні з Вены і французскі танцор і балетмайстар Луі Максімільян Дзюпрэ. Капельмайстрам прыдворнага аркестра князя Г. Ф. Радзівіла быў вядомы музыкант Францішак Вітлан.

З 1617 г. у Слуцку існавала кальвінісцкая гімназія, у якой выкладалі лепшыя педагогі Вялікага княства Літоўскага — Рэйнальд Адамі (Адамус, Адам), выхадзец з Баварыі, і Андрэй Дабжанскі (Дабранскі), а таксама выхадзец з Італіі Андрэй Музоній і іншыя.

Колькі вучоных, пісьменнікаў і мастакоў скончылі гэту старэйшую школу Беларусі. Усіх не пералічыць, але хочацца нагадаць, што сярод яе вучняў былі: беларускі і польскі пісьменнік Дамінік Рудніцкі, гісторык і паэт з Польшчы Мацей Стрыйкоўскі, польскі паэт і перакладчык Францішак Князьнін, мастак і мемуарыст з Літвы Эдвард Баніфацы Паўловіч, заснавальнік першай у Расіі клінікі па хваробах скуры Генрых Кулакоўскі і іншыя.

Але ж звернемся да гісторыі XVIII стагоддзя. Менавіта ў гэты час пры двары Радзівілаў адчыняецца майстэрня, альбо, як тады яе называлі — персіярня, якая ў хуткім часе прыносіць вялікую славу нашаму краю сваімі паясамі, што тут выраблялiся.

Слуцкія паясы... Жамчужына высокага майстэрства беларускіх ткачоў, гонар беларускага дэкарытыўна-прыкладнога мастацтва. Роўных ім па прыгажосці і якасці выканання не было. Першапачаткова на фабрыцы працавалі персы і туркі, але праз некаторы час маладыя мясцовыя рабочыя былі накіраваны ў Станіслаў для навучання (у тую пару г. Станіслаў славіўся вытворчасцю паясоў). А праз 10-15 гадоў на фабрыку прыбылі ў асноўным мясцовыя жыхары — гараджане са Слуцка, сяляне з вёсак. Асаблівага росквіту фабрыка дасягнула ў тую пару, калі яе кіраўніком стаў таленавіты майстар Ян Маджарскі, пераехаўшы ў Беларусь у 1757 годзе. Паясы ткаліся з шаўковых, срэбных і залатых нітак.

У 1846 г. мануфактура была зачынена па загаду князя Л. Віцгенштэйна. Аднак мастацкая каштоўнасць слуцкіх паясоў засталася нязменнай. У XIX ст. яны становяцца прадметам збору сярод аматараў антыкварыя, пачынаецца іх навуковае збіранне і вывучэнне, як вырабаў мастацкага ткацтва.

Самая багатая калекцыя слуцкіх паясоў мелася ў Нясвіжы, недалёка ад Слуцка, у князёў Радзівілаў. Пазней гэта калекцыя з 32 паясоў была перададзена ў Беларускую дзяржаўную гістарычную галерэю. Аднак, у гады Вялікай Айчыннай вайны яна страцілася, і да цяперашняга часу так і не засталося вядомым месца яе знаходжання. Наогул у Беларусі слуцкіх паясоў засталося зусім мала. Але ж ёсць яны ў Польшчы (Варшава, Кракаў, Люблін...), у Літве, на Украіне, упрыгожваюць музеі шоўку ў Германіі, яны ёсць і ў Амерыцы, Францыі... З якім сумам і жалем прыходзіцца аб гэтым гаварыць, бо ў нас, у Слуцку, на радзіме паясоў, апрача асобных шаўковых фрагментаў няма ніводнага цэлага. І гэта яны, маленькія кавалачкі тканіны, ураватаваныя ад здзекаў і пажараў, упрыгожваюць экспазіцыю мясцовага краязнаўчага музея.

Слуцкі краязнаўчы музей — адзін з буйных у Мінскай вобласці. Заснаваны ён больш сарака гадоў таму. Нягледзячы на тое, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны горад быў амаль поўнасцю зруйнаваны, у музеі склаліся неблагія калекцыі археалогіі, нумізматыкі, этнаграфіі, жывапісу і графікі, народнай творчасці, дакументаў.

Але сярод іх на дастойным месцы няма тых каштоўнасцей, якія пачалі знікаць яшчэ з даўніх часоў. Гэта і тыя ж слуцкія паясы, якія разышліся па свеце ў прыватныя зборы і музейныя калекцыі, і слуцкія абразы (у Слуцку існавала свая школа іканапісу). У пачатку XX ст. у Англію трапіў прастол слуцкіх князёў, выкананы са слановай косці, у невядомым кірунку знікла бібліятэка Бергеля, слуцкага пастара.

Так адбывалася, што амаль ніводная гістарычная падзея не абыходзіла Слуцка, вымушаны былі пакідаць роднае ўлонне. У такія цяжкія гадзіны, развітваючыся са сваім родным кутам, кожны браў з сабою нешта блізкае сэрцу — ці то абразок, ці то паштоўкі з краявідамі, а можа куфель з урэцкага шкла, ці матулін ручнік? Так і разляцелася па свеце добрая частка скарбаў продкаў. Але ж дзесьці яны ёсць, жывуць на чужыне маўкліва і ціхенька, а як тым маглі б паведаміць роднаму краю!

Дзе ж вы, скарбы продкаў? Не забыліся ж вы пра Радзіму? Адгукніцеся!

**Валянціна Бідлога,**

**Дырэктар Слуцкага Краязнаўчага музея.**



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

## Гданьск — запусты ў нацыянальным стылі

Нагод для сустрэчы сабралася шмат. Таму запусты не былі толькі гуляннем: 40 гадоў БГКТ, 40 гадоў „Нівы", сённяшняя сітуацыя з памяшканнем, якая патрабуе неадкладнага вырашэння.

Сваімі ўспамінамі з працы ў „Ніве" падзяліўся былы яе журналіст Мацей Канапацкі. У „Ніве" працаваў ён з 20-га нумара. Стаў следапытам. Знайшоў унучак Францішка Багушэвіча, пляменнікаў Янкі Купалы. Пісаў пра польска-беларускія культурныя сувязі. Як сын палкоўніка Хасана Канапацкага быў пад наглядам бяспекі. Аднак з сантыментам успамінаў перыяд, калі жыў у „Ніве". Адзначыў прыхільнасць да яго галоўнага рэдактара Георгія Валкавыцкага.

Больш сумнай часткай вечара была размова наконт памяшкання і вырашэння гэтай праблемы на будучыню. Задоўжанасць за арэнду на сёння складае 90 мільёнаў старых злотых.

Улады горада на дадатак прадалі будынак нямецкай суполцы „Агіб", нават і не паведамляючы Гданьскага аддзела БГКТ аб гэтым факце.

Такім чынам аддзел БГКТ у Гданьску апынуўся ў тупіку. Няма каму за ім заступіцца. Ні Галоўнае праўленне БГКТ, ні ўлады Гданьска, ні ваявода не ў змозе вырашыць праблему памяшкання. Ці ў канцы існуючы ад 1967 года ў Гданьску беларускі клуб канчаткова страціць сваё памяшканне? Найбольш сумнае тут тое, што ўсе адчуваюць адзіноцтва і адсутнасць падтрымкі з кожнага боку.

Каб не паглыбляцца ў безнадзейнасць — усё ж сёння запусты — з воклічам „Жыве Беларусь!" падымалі мы тосты, між іншым з нагоды дня нараджэння Мацея Канапацкага, якому 29 студзеня споўнілася 70 гадоў. Ад Чэслава Мекіна атрымалі, маляваную на шкле ягонай дачкой-мастачкай, Пагоню, каб вяла нас да светлай будучыні!

**Лена Глагоўская**

## Хто ведаў настаўніцу Рэндар?

Ад сп. Вацлава Краўчыка са Шчацінка атрымаў я даволі цікавы, стары дакумент. Гэта ўручную напісанае пасведчанне (на расейскай мове), што нейкая Эльза Луцыя Рэндар закончыла ў 1914 г. Рыжскую жаночую гімназію Э. Дэпрэа (са спецыяльным вывучэннем прадметаў: геаграфія і нямецкая мова) і атрымала званне дамашняй настаўніцы. На гэтым дакуменце знаходзіцца таксама адбітак пячаткі Гайнаўскага надлясніцтва і подпіс надлясніччага, праўда, не цалкам разборлівы, але мне здаецца, што В. Вашкевіча. Можам затым здагадвацца, што Э. Л. Рэндар працавала (або старалася знайсці працу) настаўніцай у Гайнаўцы або ў яе ваколіцы. Хаця на дакуменце няма даты, усё-такі можна меркаваць, што ён з міжваеннага перыяду (на пячатцы арол у кароне!).

Мне вельмі цікава, ці сапраўды Э. Л. Рэндар працавала на Гайнаўшчыне. Я з такім прозвішчам тут не сутыкнуўся! Разлічваю на памяць старэйшых жыхароў Гайнаўкі. Калі б нехта нешта ведаў у гэтай справе, няхай напіша ў „Ніву". Сам дакумент я намераны перадаць у Гайнаўскую гарадскую бібліятэку, якая, як мне вядома, збірае архіўныя матэрыялы з мінуўшчыны горада.

**Пётр Байко**

# Змагацца з прывідамі

На справаздачна-выбарчы сход варшаўскага Аддзела БГКТ 26 лютага 1996 г. прыйшло 11 асоб. Член Праўлення Аддзела Алена Анішэўская запрапанавала абмежаваць праграму сходу да інфармацыйнай функцыі, а іншыя справы вырашыць у іншым часе, добра іх падрыхтаваўшы. Аднак дарма. Старшыня Аддзела Мікола Алексяюк пастараўся пераканаць прысутных у неабходнасці правядзення перавыбараў праўлення з прычыны націску мясцовай адміністрацыі. Малую прысутнасць на сходзе растлумачыў ён боязню людзей прызнавацца да сваёй нацыянальнай меншасці. У сваёй вуснай інфармацыі аб дзейнасці Праўлення за апошнія два гады адзначыў у асноўным 13 мерапрыемстваў (дакладаў і сустрэч) і 4 калектыўныя імпрэзы, наладжванне кантактаў з мясцовымі ўладамі і банкамі, здабыццё 12 тысяч зл. датацыі ды выпрацоўка 550 зл. з уласных даходаў, з чаго на сённяшні дзень асталося ў банку на рахунку Аддзела 5 тысяч зл. У праграме дзейнасці на 1996 г. прадугледжана між іншым:

— наём памяшкання для аддзела БГКТ,

— сарганізаванне дзён беларускай культуры,

— наладжанне канікулаў для польскіх і беларускіх дзетак з Беларусі сумесна з СЛД.

Пра расходванне 7 тысяч злотаў старшыня расказаў у ходзе спрэчак, адказваючы на пытанне Міколы Раманчука. Расходы матываваў ён арганізацыйнымі коштамі імпрэзаў і пакупкаю друкаркі, што спрэжаная з яго хатнім камп'ютэрам выкарыстоўваецца для патрэб Аддзела БГКТ.

Аўтар гэтай занатоўкі пацвердзіў арганізацыйную аператыўнасць старшыні Аддзела, асабліва ў галіне наладжвання кантактаў з уладамі і банкамі, выступаючы ад імя беларускай нацыянальнай меншасці. Падкрэсліў таксама ахвярнасць сп. Яўгеніі Шымчук у выканаўчай працы. Маючы на ўвазе мізэрную прысутнасць людзей на згаданых сустрэчах і на сходзе, які мае быць выбарчым, паставіў я тэзіс аб парванні лучнасці Праўлення з асяроддзем, магчымым разыходжаннем паміж дзейнасцю Таварыства і спадзяваннямі людзей. Удзел соцень асоб у іншых беларускіх мерапрыемствах культурнага характару сведчыць аб беспадстаўнасці тэзісу, што людзі баяцца бы цураюцца прыналежнасці да беларускай нацыянальнай меншасці. У заключэнні падтрымаў я прапанову А. Анішэўскай старанна падрыхтаваць справаздачна-выбарчы сход, у тым ліку і справаздачу, а сход склікаць паўторна і такім чынам парваць з імправізацыяй у працы Праўлення.

А. Анішэўская і Янка Заброцкі выказалі погляд, што пры існуючай адсутнасці зацікаўлення дзейнасцю Аддзела БГКТ, развіццё працы немагчыма, прычым апошні сцвердзіў, што грамадства адышло ад БГКТ пасля страты памяшкання Аддзела. Запрапанаваў прытым сарганізаваць асабіста чытальню пры Аддзеле, калі ўдасца атрымаць кватэру.

З талковаю прапановаю культурнай працы, паднятай над узровень фальклору і навучання беларускай мове беларускіх дзяцей, народжаных і выхаваных у Варшаве, выступіў польскамоўны Міраслаў Кажынскі.

Не абышлося і без палітычнага акцэнту, што здамінаваў апошнюю фазу сходу.

Фёдар Галёнка прычынай дэзінтэграцыі 2,5 тысячы беларускіх сем'яў — жыхароў Варшавы, палічыў з'яўленне розных палітычных уплываў у асяроддзі, у тым ліку і тых, што быццам бы байкатуюць кантакты з Прадстаўніцтвам Рэспублікі Беларусь і выкарыстоўванне памяшкання ў Доме расейскай культуры на сустрэчы беларусаў. Гэтае сцверджанне, ад якога павеяла маніяй праследавання з прошлага, хоць і без доказаў, прывяло Ф. Галёнку да вываду, што трэба выдумаць „лозунг", які зместам сэнсім акрэсліць мэту працы Аддзела. Гэтым „лозунгам", заявіў, павінна быць аб'яднанне ў тварэнні „добрай атмасферы вакол вольнай Беларусі". На „лозунг" сфармуляваны, як-ніяк, адзіным хіба сёння ў Варшаве даверапым кіраўніцтва Галоўнага праўлення БГКТ, ніхто з прысутных не зарэагаваў, што паслужыла Ф. Галёнку падставай прызнаць яго адобраным прысутнымі напрамкам працы і патрабаваць увесці яго ў пратакол. Другою прычынаю расцярушання асяроддзя прызнаў ён наўмыснае, у яго перакананні, разбіццё некім „працы" з моладдзю, што мела месца ў БГКТ пры вул. Старасцінскай (там студэнты карысталіся якісь час пакойчыкам, дзе рэдагавалі свае „Сустрэчы", пакуль іх не выселіла завязаная Праўленнем гандлёвая суполка „Бел-Поль" — Я. Ж.). Праблему эксмісіі Таварыства з кватэры пры вул. Старасцінскай размоўца абышоў як нешта мала важнае, хоць павінен ведаць, што якраз гэты інцыдэнт прычыніў найбольшую крыўду беларускай нацыянальнай меншасці ў Варшаве. Праігнараваў ён і той факт, што існуе другі бок удзельнікаў інцыдэнту, які ставіць між інш. і Ф. Галёнку ў нязручную сітуацыю, магчыма крыўдна, распачоўдваючы ў грамадстве перакананне, што з-за мардабою хлопцаў за грошы выкінулі Таварыства „на брук". Скліканне сапраўднага справаздачна-выбарчага сходу павінна стварыць магчымасць сумленнага высвятлення людзям той прыкрай справы. Гэтак аднак не сталася. На спісак кандыдатаў у Праўленне Аддзела ўпісаліся сакратаром сходу: Мікола Алексяюк, Алена Анішэўская, Фёдар Галёнка, Мікола Іваноў, Міраслаў Кажынскі, Яўгенія Шымчук і паколькі ніхто больш з прысутных не згадзіўся кандыдаваць, па прапанове М. Алексеюка занеслі ў спісак кагосьці непрысутнага — Андрэя Семенюка. У рэвізійную камісію папалі: Янка Заброцкі, Ірэна Пацушка, Андрэй Тапалеўскі. Такім чынам органы Аддзела БГКТ у Варшаве ўчынілі самавыбар, галасуючы на свой блок. Адзін з прысутных на сходзе не ўдзельнічаў у галасаванні і яшчэ адзін устрымаўся ад голасу пры выбары рэвізійнай камісіі.

Стары дасведчаны ў мінулым асноўны касцяк праўлення стварыў сабе магчымасці здзяйснення кірунку барацьбы з прывідамі нацыяналізму пад патрыятычна-гучным „лозунгам" сп. Галёнкі. Наколькі магчымым будзе ў той кампаніі ажыццяўленне прагрэсіўных памкненняў недасведчанага Міркa Кажынскага ў галіне культуры і разам з ім ахвярнай, добразычлівай, але падпарадкаванай Гені Шымчук, пакажа будучыня. Варта ім пажадаць поспехаў.

**Янка Жамойцін**

# Хвіля духоўнай раскошы

Культура Беларусі, нягледзячы на дзяржаўнае суседства, у Польшчы праяўляецца вельмі рэдка — хтосьці мог бы сумнявацца ў яе існаванні. Так сапраўды то яна існуе ва ўсякіх формах: і ў мастацтве, і ў тэатры, і ў літаратуры. Але што ведае пра яе сярэдні жыхар Польшчы? Ну, можа нешта пра фальклор, які штогод прэзентуецца на беларускіх фестывалях і пры іншых нагодах.

А класічная музыка? Балет? Опера? Так, ёсць у Беларусі вялікі Тэатр оперы і балета, пабудаваны да вайны. Але што аб ім ведаюць жыхары Польшчы, нават беларусы?

Усе гэтыя разважанні навеяны гастролямі балета класічнай музыкі з Мінска, які выступаў у Пулавах, Гданьску і Варшаве.

Выпадкова апынуўшыся ў Варшаве, мне прыйшлося пабачыць нешта прыгожае ў выкананні маладых артыстаў, вучняў Мінскага харэаграфічнага ліцэя і студэнтаў Беларускай музычнай акадэміі. Выступалі яны на Камернай сцэне Вялікага тэатра.

Выпадковасць была падвойная для некаторых гледачоў. На вялікай сцэне меўся быць балет „Мазэпа". Але па прычыне хваробы рэжысёра ў апошнюю хвіліну спектакль быў адкліканы і некаторыя пажадалі паглядзець узамен беларускі балет.

Былі такія, што спецыяльна прыйшлі на беларускую праграму, не маючы білетаў ні запрашэнняў. Адзін дзядзька ў кажуху сказаў: „Proszę mnie wpuścić. Przyjechałem z daleka. Muszę to zobaczyć. Bardzo lubię Białoruś i Białorusinów. Proszę mnie wpuścić!"

У Камернай зале не ўсім хапіла месцаў. Людзі сядзелі на сходах, дастаўленых крэслах, стаялі. Сярод гледачоў апынуліся такія маладыя дзяўчыны, якія не ведалі, хто перад імі выступае: „To jacyś Ruscy?" — запытала адна. „Nie, chyba z Ukrainy" — адказала другая. — „Co za różnica, i tak Ruscy!" — дадала трэцяя. Цікавая геапалітычная оптыка маладога пакалення, у якой навочна нават няма месца для Беларусі.

Спярша выступілі лаўрэаты польскіх балетных конкурсаў — вучні Дзяржаўнай балетнай школы ў Варшаве Барташ Анчыкоўскі і Эва Новак. На фоне беларускіх маладых артыстаў выглядалі яны цьмяна.

У першай частцы праграмы пад музыку Пятра Чайкоўскага і Людвіга Мінкуса танцавалі Аста Базавічутэ, Ірына Цымбал, Ігар Седка, Ігар Колб, Максім Войтуль.

Асаблівай прывабнасцю адзначылася Ірына Цымбал — семнаццацігадовая вучаніца Беларускай харэаграфічнай школы, лаўрэатка міжнародных балетных конкурсаў. Камерны аркестр Музычнага ліцэя іграў музыку Вольфганга Амадэя Моцарта і Эдварда Эльгара. Дырыжыраваў Уладзімір Перлін.

Другая частка праграмы прысвечана была Міхалу Клеафасу Агінскаму. Вучні Мінскага харэаграфічнага ліцэя і Камерны аркестр падрыхтавалі аднаактавы балет да музыкі ўспомненага кампазітара пад загалоўкам „Паланэз". Мастацкая драматургія танца вынікала з музычнай інтанацыі. Дзяўчаты выступілі ў далікатных, тонкіх сукенках. Не хапала толькі замкавай ці дворскай атмасферы ў сцэнічным афармленні, калі гучалі мазуркі, вальсы, кадрылі, паланезы Агінскага. Завяршэннем быў вядомы паланез „Развітанне з Айчынай", які па жаданню гледачоў выконваўся двойчы.

Аўтарам драматургічнай апрацоўкі спектакля з'яўляецца беларускі кампазітар, дырэктар „Беларускай капэлы" Яўген Паплаўскі. Як музык, шукае ён у розных месцах свету даўняй, рэнесансныя музыкі створанай на дварах, замках Беларусі. Выводзячыся з сям'і беларускага ксяндза Станіслава Глякоўскага, прыдае вялікае значэнне да музычнай спадчыны Беларусі і шмат робіць для яе вяртання з забыцця.

Пра ўсё гэта можна было б і не пісаць. Я. Паплаўскі быў крыху здзіўлены, што ў Гданьску 27 лютага не было беларусаў на іхнім спектаклі. Ніхто не ведаў.

Арганізатарамі гасцінных выступленняў у Польшчы былі Міністэрствы культуры і мастацтва Польшчы і Беларусі. Шкада, што дыпламатычныя прадстаўніцтвы няшмат зрабілі, каб беларусы, якія жывуць у Гданьску, змаглі пабачыць на высокім узроўні класічны балет з Мінска. А ганарыцца сапраўды ёсць чым.

**Лена Глагоўская**

# Зорка

## старонка для дзяцей


## Вершы Віктара Шведа

**Пяць каралёў у адным ложку?**

На Вавелі экскурсавод
Тлумачыў вучням мо гадзіну:
— Пяць каралёў многа гадоў
Спалі пад гэтым балдахінам.

— У гэта нельга веры даць, —
Азваўся здзіўлены Сярожка. —
Як жа магло іх столькі спаць
У гэтым невялікім ложку?

**Кім хочаш быць?**

Настаўнік запытаў дзяцей:
— Ці выбралі ў жыцці дарогу?
На гэта адказаў Андрэй:
— Людзей я буду падымаць на
ногі.

— Быць добрым лекарам, відаць,
У будучыні ты мяркуеш?
— Будзільнікі рамантаваць,
Калі ўжо вырасту, хачу я.

<u>Нашы легенды</u>

## Трагічнае каханне

Непадалёк Міхалова, на ўзгорку ля старой цагельні, стаяла чырвоная мураванка. У гэтым доме здарылася трагедыя. Жыў там малады хлопец са сваёй маці. Пакахаў ён прыгажуню з Міхалова. Была аднак праблема — яна праваслаўная, ён — католік. Маці не хацела такой жонкі для свайго сына.

Аднойчы, калі не было маці, задумаў хлапец прывесці сваю каханую, паказаць хату і сядзібу. Выйшла аднак інакш, бо маці заранёў вярнулася і прывітала маладых лаянкай.

— Ці табе ўжо больш дзяўчат няма! — крычала расхваляваная пажылая кабета.

— Мамачка, ты лепш падумай, — умаляў яе хлопец, — гэта ж мая, не твая жонка будзе.

— Ідзіце прэч! — віснула маці. — Не хачу я больш на вас дзівіцца!

Змяркалася. Сонца хавалася за небакрай. Побач чырвонай мураванкі віднела вялікая сажалка. Там не раз сустракаліся закаханыя, не раз гаварылі пра сваю любоў і будучыню. Рашылі і цяпер, узяўшыся за рукі, патануць у хвалях сажалкі. Якраз схавалася сонца і пачыналі спяваць салаўі. Кажуць людзі, што і цяпер можна пачуць у гэтым месцы галасы маладых каханкаў.

*Пачула ад сваёй мамы
і пераказала* **Аня Садоўская**



*Зіма ў наваколлі Мастаўлян.* *Фота Ганны Кандрацюк*

## Грунвальдская бітва

15 ліпеня 1410 г. пад Грунвальдам мела месца найбольшая бітва ў сярэдневяковай Еўропе. Экспансія нямецкага Ордэна крыжаносцаў на тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польскага прымусіла гэтыя дзяржавы аб'яднаць сілы каб абараніць сваю незалежнасць. Крыжаносцы мелі падтрымку з боку нямецкага імператара, папы рымскага і большасці заходнееўрапейскіх манархаў. У войнах, якія вялі крыжаносцы, бралі ўдзел рыцары з цэлай Еўропы, шукаючы на Усходзе славы, багацця і земляў. На пачатку XV стагоддзя Ордэн быў наймагутнейшай дзяржавай у Еўропе. Супраць беларуска-літоўскай і польскай арміяў крыжаносцы паставілі ў поле каля Грунвальда 30 тысяч найлепшых еўрапейскіх рыцараў. Арміі караля Польшчы Ягайлы і князя Вітаўта налічвалі разам 40 тысяч ваяроў, але сярод іх былі лёгкаўзброеныя татарскія і літоўскія харугвы, непрыдатныя ў бітве, калі б вялася яна паводле еўрапейскіх правілаў. Таму Ягайла кіраваў бітвай паводле татарскай тактыкі. Калі крыжакі стаялі ў полі пад гарачым сонцам, Ягайла чакаў у лесе аж вораг патраціць нервы і сілы. Пачаў бітву, калі заходнееўрапейскія рыцары амаль млелі апранутыя ў цяжкую зброю.

Пад Грунвальдам змагалася 14 тысяч беларускіх рыцараў. У польскай гістарыяграфіі пішацца, што асноўную і рашучую сілу ў гэтай бітве прадстаўляла каралеўскае войска.

Савецкія і расейскія гісторыкі беларускія харугвы называлі „рускімі". Суседзі хацелі б нават адабраць нашым продкам права на належную ім славу. Пад Грунвальдам загінула палова прысутнага там беларускага войска, але не ўступіла поля найлепшым рыцарам Еўропы.

Перамога польска-беларуска-літоўскай арміі над крыжаносцамі ў 1410 г. паўстрымала іх агрэсію на Усход, адвярнуліся ад іх саюзнікі, заходнееўрапейскія феадалы пераканаліся, што замест славы і ваенных трафеяў можна тут шмат чаго яшчэ патраціць.



*„Закрытая прастора".* *Мал. Юліты Гаўрылюк*




**Дарагая „Зорка!**

Я — вучаніца VI класа і хачу расказаць табе гісторыю пра хворага зайчыка, якую я напісала на ўроку беларускай мовы.

Аднойчы зімой мяне сустрэла вельмі цікавае здарэнне. Мы з сяброўкай пайшлі на горку. Там ездзілі на санках і гулялі ў снежкі. Калі вярталіся ў хату, знайшлі мы зайчыка з хворай лапкай. Узялі яго дахаты і забінтавалі лапку. Зайчык быў у нас цэлы студзень. Мы кармілі яго і лячылі лапку. Калі зайчык выздаравеў, назад занеслі яго ў лес. Мы вельмі цешыліся, што дапамаглі зайчыку.

**Анэта Пашкоўская,
Пачатковая школа ў Кленіках**

Прывітанне, Анэтка! Ваш учынак сапраўды незвычайны. Абарона слабейшых і хворых як ніштo сведчыць пра „чалавечнасць" людзей. Тым больш, што большасць „людзей" такога зайчыка на волю ўжо не выпусціла б.

**Зорка**

**Польска-беларуская
крыжаванка № 11**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| KOLEGA ↓ / PIASEK → | | | | ↓ BÓR / KASZA ↓ | NOC ↓ |
| | | | | | |
| BARAN / STRACH → | | | | | |
| | | | * | | |
| ROGACZ → | | | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў на польскай мове. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў мы разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 6**: жгут, гора, уран, танк.

Узнагароды — альбомныя запісныя кніжкі — выйгралі: **Івона Сегень** з Гайнаўкі, **Лукаш Астроўка** з Нарвы, **Марцін Мялешка** з Катоўкі, **Тамаш Жак** з Тафілаўцаў, **Мар'юш Саковіч** з Бельска-Падляшскага, **Лукаш Лабузінскі** з Кленік.

Віншуем!

**Зімовыя загадкі (№ 2)**

1.
Снег на полі, лёд на рацэ,
Мяцеліца гуляе — калі гэта бывае?

2.
Лятуць птушкі без крыл,
На дрэвы садзяцца без ног.

3.
Белы, лёгкі і пушысты,
ён укрыў зямлю дачыста.
Я прынёс яго ў дом —
ён разліўся ручаём.

Адказы прышліце ў „Зорку".

Адказ на „Загадкі з роднай хаткі": 1. цыбуля, 2. час, 3. тыдзень, 4. мароз, 5. карова.

Узнагароды — каляровыя алоўкі — выйгралі: **Эва Кот** з Дубін і **Каміля Лабузінская** з Кленік.

**Талон „Зоркі" № 11
17.03.1996**

**III Сустрэчы „Зоркі"**

# ПРЫВІТАННЕ ВЯСНЫ

*Прапануем вам, дарагія чытачы, пазнаёміцца з п'есай, якую склалі і падрыхтавалі ўдзельнікі III Сустрэч „Зоркі".*

**Усе**: *(уваходзяць з песняй)* „Траўка-мураўка".

адзін

трав-ка му-рав-ка чом ты нэ зэ-лен(а)

гурт

ой ра-но ра-но чом ты нэ зэ-лен(а)

*Травка-муравка, чом ты не зэлёна,*
*Ой, рано-рано, чом ты не зэлёна?*
*Якжэ я маю зэлёною быті,*
*Трэба на мэнэ тэпленького ліета,*
*Ой, рано-рано,*
*тэпленького ліета.*
*Тэпленького ліета, тэпленького дожджа,*
*Ой, рано-рано, тэпленького дожджа.*
*А то на мэнэ снігегі і морозы,*
*Ой, рано-рано, снігегі і морозы,*
*Снігегі і морозы, шчэй й буйные віетры.*
*Ой, рано-рано, шчэй буйные віетры.*

**Вядучы І**: — Прыйшло Свята Грамніц.

**Вядучы ІІ**: — Як у народзе кажуць: „Грамніцы — палавіна зіміцы".

**Вядучы ІІІ**: — З гэтай пары людзі пачыналі выглядаць вясну.

**Вядучы І**: — Каб вясну гукаць,
Трэба ўсім танцаваць.
Грай, музыка, весялей!

*(Музыка іграе, а дзеці танцуюць народны беларускі танец напр. „Лявоніху" або польку)*

*(Мядзведзь спіць, а на сцэну ўбягае з аднаго боку Мышка, а з другога — Зайчык)*

**Зайчык**: — Мышка, куды спяшаешся?

**Мышка**: — Вясну сустракаць.

**Зайчык**: — Мышка, мышка, а дзе ты была?

**Мышка**: — Была ў пана-караля.

**Зайчык**: — Што рабіла?

**Мышка**: — Лыжкі мыла.

**Зайчык**: — А што далі?

**Мышка**: — Кавалак сала.

**Зайчык**: — Куды паклала?

**Мышка**: — Пад лаўкаю.

**Зайчык**: — Чым накрыла?

**Мышка**: — Халяўкаю.

**Зайчык**: — Дзе падзела?„

**Мышка**: — Кошка з'ела.

*(Дзеці спяваюць песню „Ой пуд мостом")*

Стрымана, спеўна ♩=84

Адна / Гурт / доўгая

Ой, пуд мо-стом, ой, пуд мо-стом ры-ба з хво-стом.

*Ой, пуд мостом*
*Рыба з хвостом.*
*Ой, там дівка*
*Траву жала,*
*Траву жала,*
*Рэзучую,*
*Траву жала*
*Колючую.*
*Дай стрів еі —*
*Старый дэдок.*
*То ж ны дэдок,*
*А Господь Бог.*
*Ёму дівка*
*Кланяецца.*
*Вун у дівкы*
*Пытаецца:*
*— Высна ідэ,*
*Пора ідэ,*
*Пора ідэ*
*Высёлая.*
*Што ж ты, дівко,*
*Засмучона?*
*— Ой, дідухно,*
*Ой, батюхно,*
*Ой, послала ж*
*Дай матюхно*
*Траву жаты*
*Колючую*
*Траву жаты*
*Рэзучую.*
*Шчэ ж я дівка*
*Молодая,*
*А водыца*
*Холодная.*
*— Іды ж, дівко,*
*Дорогою*
*Дай стрінэсса*
*Ты з долею.*
*Твоя доля*
*Сыроцкая,*
*Станэ ж доля*
*Шчаслывая.*
*Стрінэш хлопця*
*Молодого,*
*Собі друга*
*Суджаного.*

**Вядучы ІІІ**: *(пасля песні)*
Воўк наш коўзацца хадзіў,
Сабе лапку застудзіў.
Прыбег да Алёнкі: *(убягае Воўк)*
Пазыч мне валёнкі,
Я зімою панашу,
А вясною прынясу.

*(Дзяўчынка ўручае Ваўку валёнкі)*

**Воўк**: — Дзе ж ты, вясна?
Дзе ж ты згубілася, красна?
Мо ў лесе дзе замерзла?

**Зайчык**: — Што да нас ты не прыйшла?
Ці валёнак не знайшла?

**Лісіца** *(убягае)*:
Ці вавёрка спрытнай лапкай
У цябе схапіла шапку?
Дзе ж ты, вясна?
Дзе ж ты, красна?
Можа, снег цябе занёс?
Ці кажух мядзведзь твой знёс?
Ці вакольным снегам бродзіш?
Да нас сцежачкі не знойдзеш?
Ці лісічка мех праела,
Ці ў мяшэчку апусцела?
Дзе ж ты, вясна?
Пакажыся нам, красна!
Дай нам сонейка гарачага!
Дай нам радасці-цяпла!

*(Дзеці спяваюць песню „Тонка канапелька"):*

Allegro

1. Тон-ка-тон-ка ка-на-пель-ка, гэй, гэй,
2. Там Ган-дзеч-ка во-ду бра-ла, гэй, гэй,
1. ві-но, ві-но зе-ле-но!
2. ві-но, ві-но зе-ле-но!

*Тонка-тонка, тонка канапелька,*
*гэй, гэй,*
*віно, віно зелено!*
*Там Гандзечка водлу брала,*
*гэй, гэй,*
*віно, віно зелено!*

**Вядучы І**: — У нашай вёсцы даўным-даўно, тыдзень перад Вялікім Постам — на Масленіцу, таксама як і на Каляды, па хатах вадзілі казу.

**(Дзеці** *спяваюць песню „Го-го-го каза", на сцэну ўбягае Каза з Пастухом і танцуе, бегае пад музыку***)**:

Рухава

Го-го-го ка-за, го-го-го шэ-ра, дзе рож-кі дзе-ла? На соль пра-е-ла!

*Го-го-го каза,*
*Го-го-го шэра,*
*— Дзе рожкі дзела?*
*— На соль праела!*
*Го-го-го каза,*
*Го-го-го шэра,*
*Паварачвайся,*
*Не забывайся.*
*То на сей бачок,*
*То на той бачок,*
*То на рожачкі,*
*На калыцікі.*
*Ты, каза, сагнісь,*
*Нізка пакланісь*
*Гэтаму пану*
*Як бы гетману.*
*Уставай, схапісь,*
*Гаспадыні гнісь,*
*Ды чалом, чалом,*
*Усім гаспадаром.*
*Будзь, ваша, здароў,*
*Як рыжык бароў,*
*Май торбу грашэй,*
*Жыві раскашней.*
*Го-го-го каза,*
*Го-го-го шэра,*
*Дзе яна бывае —*
*Шчасце вітае.*
*Дзе каза ходзіць,*
*Там жыта родзіць.*
*Дзе каза хвастом,*
*Там жыта кустом.*
*Дзе каза нагой,*
*Там жыта капой,*
*Дзе каза рагом,*
*Там жыта стагом.*
*Добры гаспадар,*
*Падарунак дай,*
*Каб быць у спакоі,*
*Казу падары.*
*Дай шматок сала,*
*Каб жыта жала,*
*А рэшта аўса,*
*Наверх каўбаса.*
*А як добры пан,*
*Дасць і мёду жбан.*
*Можа й гусачку,*
*На перакусачку.*
*Го-го-го каза,*
*Го-го-го шэра,*
*Павярнісь складней,*
*Пакланісь зграбней.*
*Пакланісь усім:*
*Старшым і малым,*
*Закладай рогі,*
*Падбірай ногі.*
*З хаты выхадзі,*
*Бяду вынасі,*
*Уцякай хутчэй*
*Ты з людскіх вачэй.*

*(Убягае на сцэну каза з пастухом і танцуе, бегае пад музыку)*

**Вядучы ІІ** *(пасля вываду Казы)*: — У маёй вёсцы пасля Масленіцы будзілі мядзведзя, вядома, не па-сапраўднаму. Лічылася, што як толькі мядзведзь прачнецца, дык і вясна пачнецца.

**Вядучы ІІІ**: — Гэта цудоўна! Давайце і мы разбудзім Мядзведзя. Ён у нас яшчэ моцна спіць у бярлозе пад снегам.

*(Убягаюць Дзеці і будзяць Мядзведзя, які спіць накрыты газетамі.)*

**Дзед**: — Эх, будзілі вы, дзеткі, мядзведзя, а ён нешта спіць ды спіць. Што рабіць будзем?

**Вядучы IV**: — А навошта яму прачынацца, калі няма чым частавацца? Вось калі пачуе, што пчолы ўжо гудуць ды мёд нясуць, адразу прачнецца!

**Вядучы ІІ**: — Ну, тады трэба Пчолку паклікаць. Паўтарайце за мною апошнія словы:

*Ты, пчолка ярая,*
*Ды вылеці за мора.*
*Ой ляло, ляло,*
*Ты вылеці за мора.*
*Ой, ляло, ляло,*
*Ды вылеці за мора.*
*Ты вынесі ключыкі,*
*Ключыкі залатыя,*
*Ой, ляло, ляло,*
*Ключыкі залатыя.*
*Ой, ляло, ляло,*
*Ключыкі залатыя.*

*(Убягае з ключом Пчолка, танцуе пад музыку, „адчыняе" Мядзведзя — той прачынаецца і танцуе з Пчолкай. Пачынаюць танцаваць і цешыцца ўсе.)*

Заўвага: У хорык, які спявае песні, уваходзяць усе вядучыя і некалькі дзяцей без іншых роляў.

# Нас павіншавалі

З нагоды дастойнага юбілею, якім з'яўляецца саракагоддзе існавання тыднёвіка „Ніва", усім людзям, якія спрычыніліся да ўзнікнення газеты ў 1956 г., ейным галоўным рэдактарам, усім працаўнікам і карэспандэнтам на працягу такога прамежку часу, усяго найлепшага ў прафесійным і асабістым жыцці зычыць Беларускі саюз у Польскай Рэчы Паспалітай. Цяжка сабе ўявіць існаванне беларусаў Беласточчыны без газеты „Ніва", якая спадарожнічала ў радасцях і клопатах нас усіх.

Зычым рэдакцыі „Нівы" павелічэння тыражу, вострых рэпарцёрскіх пёраў і далейшай веры ў ідэю беларускасці.

**Старшыня Беларускага саюза ў РП**
**Яўген Вапа**

На многія, многія леты!

Шыракавядомы, заслужаны беларускі тыднёвік „Ніва" адзначае сваё саракагоддзе. Рэгулярна прыносіць ён чытачам на сваіх старонках важныя і патрэбныя звесткі. У той жа час „Ніва" ад пачатку свайго існавання заўсёды была болей чым газетай. Дзякуючы мове, на якой выходзіць, зместу, які нясе, і перш за ўсё — людзям, да якіх трапляе, сталася яна беларускай нацыянальнай установай. Немагчыма пераацаніць яе ўздзеянне на захаванне і развіццё роднай мовы і культуры, замацаванне традыцыі. Гэтую дзейнасць немагчыма спыніць, неабходна яе працягваць, узбагачаць, развіваць — яе чакаем мы ўсе.

Калектыву „Нівы" і згуртаваным пры ёй супрацоўнікам і карэспандэнтам доўгіх-доўгіх гадоў плённай службы для дабра беларушчыны, а чытачам — радасці і задавальнення ад чытання роднай „Нівы" ад шчырага сэрца зычыць рэдакцыя „Przeglądu Prawosławnego".

**Галоўны рэдактар**
**Яўген Чыквін**

Z okazji jubileuszu „Niwy" *Mnohaje leta.*
**Dyrektor i pracownicy**
**Hajnowskiego Domu Kultury.**

Szanowny Panie Redaktorze!

Z okazji 40-lecia istnienia tygodnika „Niwa" proszę o przyjęcie moich najlepszych życzeń i serdecznych pozdrowień, które za Pańskim pośrednictwem kieruję do całego zespołu redakcyjnego.

Wyrażam głębokie przekonanie, że tygodnik „Niwa", adresowany do społeczności białoruskiej w Polsce, ze szczególnym uwzględnieniem Białostocczyzny dobrze spełnia swoją rolę, informując swoich czytelników o najistotniejszych, dotyczących i interesujących ich sprawach.

Kierowanemu przez Pana zespołowi redakcyjnemu i Panu osobiście życzę wielu sukcesów w trudnej pracy redaktora, satysfakcji z jej wyników oraz wszelkiej pomyślności w życiu osobistym.

Z wyrazami poważania
**podsekretarz stanu w Ministerstwie**
**Kultury i Sztuki**
**Michal Jagiello**

Z okazji jubileuszu 40-lecia Waszego czasopisma proszę przyjąć serdeczne gratulacje i wyrazy podziękowania za działalność publicystyczną popularyzującą problematykę białoruskiej mniejszości narodowej zamieszkującej Białostocczyznę.

Szczególne wyrazy uznania składam za umiejętności kreacyjne w przedstawianiu poszczególnych tematów: historii, kultury, tradycji i literatury białoruskiej na Białostocczyźnie.

Umiejętności te cenię szczególnie wysoko, gdyż dają możliwość wprowadzania naszych lokalnych osiągnięć kulturowych do kultury ogólnonarodowej.

Życzę całemu Zespołowi Redakcyjnemu Tygodnika Białoruskiego „NIWA" satysfakcji ze swojej pracy zawodowej, dalszego zaufania wśród czytelników, szczęścia i pomyślności w życiu osobistym

**Wojewoda Białostocki**
**Andrzej Gajewski**

Паважаныя сябры,

Ад шчырага сэрца віншую Вас і ўсіх супрацоўнікаў штотыднёвіка „Ніва" з нагоды 40-гадовага юбілею.

Ваша публіцыстычная і літаратурнамастацкая дзейнасць заўсёды спрыяла развіццю беларускай нацыянальнай самасвядомасці, захаванню гістарычнай спадчыны нашай Бацькаўшчыны на Беласточчыне.

Жадаю Вам і надалей заставацца сапраўдным носьбітам беларускага слова, нацыянальнай культуры і мастацтва ў Польшчы.

Далейшых Вам творчых поспехаў, плёну ў працы, здароўя і дабрабыту.

З павагай,
**Міністр замежных спраў**
**Рэспублікі Беларусь**
**У. Сянько**

Тыднёвіку
беларусаў у Польшчы „Ніва"

Сардэчна віншуем рэдакцыйны калектыў штотыднёвіка „Ніва", усіх яе журналістаў і чытачоў з саракагоддзем заснавання выдання, якое добра вядомае не толькі ў Польшчы, але і далёка за яе межамі. Ролю „Нівы" у духоўным і палітычным жыцці беларускага асяроддзя цяжка пераацаніць.

Спадзяемся, што яскравае, а часам і калючае слова „Нівы" будзе і далей прабуджаць нацыянальную свядомасць людзей, фарміраваць у іх павагу да мовы, традыцый і абрадаў сваіх продкаў, спрыяць развіццю беларускай культуры.

**Генеральны консул**
**Рэспублікі Беларусь у Беластоку**
**Міхась Слямнёў**

Шаноўныя калегі!

Прыміце маё шчырае віншаванне з адметнай падзеяй у грамадска-культурным жыцці Беласточчыны — саракагоддзем з дня заснавання паважанай газеты „Ніва".

Па волі лёсу беларусы апынуліся па розныя бакі польска-беларускай мяжы, сталіся грамадзянамі розных краін. Але нас лучыць адзіная неўміручая мова, аб'ядноўвае пачуццё адзінай прабацькаўшчыны, імя якой Беларусь.

Агульнавядома, што без нацыянальнай культуры, без яе асноўнага складніка — мовы не можа паўнавартасна існаваць народ. Каб мова пастаянна развівалася і ўдасканальвалася, патрэбны не толькі прынагодныя народныя песні, але і прафесійнае друкаванае слова. Можа, беларусы таму і трывушчыя, што першую кнігу на роднай мове мелі яшчэ на пачатку далёкамройнага 16-га стагоддзя. З гэтага глездзішча беластоцкая „Ніва" выконвае найпачэсную місію — яднае, падтрымлівае і абуджае да актыўнага творчага жыцця сваіх чытачоў. На старонках газеты сталелі, удасканальвалі свой талент шырокавядомыя сёння на Беларусі пісьменнікі Сакрат Яновіч, Мікола Гайдук, Алесь Барскі, Міраслава Лукша, Надзея Артымовіч, творы якіх, спадзяюся, выходзілі і будуць выходзіць не толькі ў Беластоку і Варшаве, але і ў Мінску.

Засеяная беларускімі патрыётамі чатыры дзесяцігоддзі таму „Ніва" сёння дае багаты плён. Зычу супрацоўнікам штотыднёвіка спору і натхнення ў працы і спадзяюся на часцейшыя сустрэчы.

**Старшыня Дзяржаўнага камітэта**
**Рэспублікі Беларусь па друку**
**У.П. Бельскі**

Дарагія Калегі!

Ад імя Міжнароднага камітэта беларусістаў, Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны і сябе асабіста сардэчна віншую „Ніву" з саракагоддзем — узростам сапраўднай і плённай сталасці. Так сейце ж, калегі-дзецюкі, і надалей важкае зерне па ніве беларушчыны, і няхай абродзіць яно поўным коласам-ураджаем!

Ад сябе дадам: прыемна мне, што сорак гадоў назад першым водгукам на першы нумар „Нівы" была мая сціплая нататка ў „Літаратуры і мастацтве".

**З пажаданнем усяго добрага**
**праф. Адам Мальдзіс**

Беларуская газета „Звязда" з Мінску віншуе беларускую газету „Ніва" ў Беластоку і ўсіх яе супрацоўнікаў з 40-гадовым юбілеем. На працягу ўсяго гэтага часу „Ніва" была тым духоўным стрыжнем, вакол якога гуртаваліся беларусы Беласточчыны. Разам з Беларускім грамадска-культурным таварыствам газета „Ніва" зрабіла каласальную работу па захаванню беларушчыны ў Польшчы.

Вашу газету чытаюць раскіданыя па ўсім свеце беларусы, якія неабыякавыя да лёсу сваёй Бацькаўшчыны і яе народа.

Зычым Вам далейшага плёну ў рабоце па захаванню беларускай прысутнасці ў Польшчы, а таксама моцных сувязяў з Беларуссю.

**Звяздоўцы**

Саюз пісьменнікаў Беларусі сардэчна вітае і віншуе калектыў рэдакцыі штотыднёвай газеты „Ніва" напярэдадні яе саракагадовага юбілею. Мы выказваем пачуццё глыбокай пашаны і ўдзячнасці заснавальнікам газеты, яе ранейшым і сённяшнім рэдактарам і супрацоўнікам за тую вялікую працу, якую яна рабіла і працягвае рабіць у справе прапаганды ўсёй беларускай літаратуры, за яе паслядоўнае супрацоўніцтва з членамі літаратурнага аб'яднання „Белавежа", за яе цікавыя літаратурныя старонкі і, у прыватнасці, за яе старонку для дзяцей „Зорка", — за ўсе добрыя справы на карысць беларускай нацыянальнай ідэі, культурнай асветы і духоўнага ўзбагачэння беларуса.

**Старшыня Саюза**

*За ўсе віншаванні шчыра дзякуем.*
***Рэдакцыя***

*Віктар Швед*

# Пастаянна з „Нівай"

(*даклад на канферэнцыі з нагоды 40-годдзя „Нівы"*)

Зарабковая праца, навука і заснаванне сям'і ў Варшаве не спрыялі маёй літаратурнай дзейнасці. Цэлае пасляваеннае дзесяцігоддзе я амаль нічога не напісаў. Галоўнай гэтага прычынай быў недахоп магчымасці друкавацца на беларускай мове. З Беларуссю не было кантактаў, ды наогул нас, беларусаў пражываючых у Польшчы, лічылі там тады эмігрантамі.

Беларусы пражываючыя ў Варшаве, асабліва студэнцкая моладзь, да якой і я тады належаў, марылі аб заснаванні сваёй беларускай арганізацыі, на ўзор хаця б Рускага культурна-асветнага таварыства, якое існавала ў Польшчы ад саракавых гадоў. Утварылі мы пры гэтым Таварыстве ў 1955 годзе беларускі гуртак.

Мары нашы неўзабаве споўніліся. 26 лютага 1956 года ў Беластоку ўзнікла Беларускае грамадска-культурнае таварыства і яго друкаваны орган „Ніва". 13 мая 1956 года паўстаў Варшаўскі аддзел БГКТ, якога я стаў актыўным членам.

Паяўленне штотыднёвіка „Ніва" было натуральным штуршком у маёй літаратурнай дзейнасці. Выклікала ў маім сэрцы так магутныя пачуцці, што я не мог не пераліць іх на паперу. Каб не „Ніва", я відавочна ў далейшым нічога б не пісаў. Мае адносіны да „Нівы" былі тады зусім некрытычныя, поўнасцю эмацыянальныя. На старонках „Нівы" ўсё тады мне падабалася. Я цешыўся, як дзіця, што ў рэшце рэшт беларусы пражываючыя ў Польшчы маюць свой часопіс, а галоўнае — магчымасць друкавацца.

У 12 нумары „Нівы" ад 24 сакавіка 1957 года паявіўся мой першы праграмны верш „Я — беларус". Ад таго часу пачаў я рэгулярна змяшчаць свае вершы на старонках „Нівы". Неўзабаве пацікавілася мною бліжэй рэдакцыя. Яе галоўны рэдактар Георгій Валкавыцкі запрапанаваў мне штат прадстаўніка „Нівы" ў Варшаве. Штатным журналістам „Нівы" быў я ад 1 красавіка 1957 па 31 сакавік 1958 года. Хачу ўспомніць, што з'яўляўся я нават карэспандэнтам „Нівы" на Фестывалі моладзі і студэнтаў у 1957 годзе ў Маскве і як усе карэспандэнты атрымаў тэлефонны ліміт часу на перадачу фестывальных матэрыялаў у рэдакцыю. Не было тады яшчэ ў нас журналісцкай тэхнікі і я цэлую гадзіну дыктаваў з Масквы Віктару Рудчыку свае фестывальныя ўражанні.

Працаваў бы я, здаецца, у „Ніве" аж да пенсіі, калі б сябры з Варшаўскага аддзела БГКТ не прапанавалі маю кандыдатуру ў Галоўнае праўленне. Другі З'езд БГКТ, які адбыўся 30 сакавіка 1958 года, выбраў мяне штатным сакратаром ГП. Пераехаў я тады ў Беласток, дзе атрымаў кватэру. Працаваў я ў ГП да канца 1960 года.

Не парываў я цеснага кантакту з „Нівай". Публікаваў на яе старонках свае вершы, артыкулы і інфармацыі з жыцця БГКТ. Уключыўся я таксама ў беларускі літаратурны рух пры „Ніве". Даспявала справа стварэння Беларускага літаратурнага аб'яднання. На пачатку 1958 года паявіўся ў „Ніве" мой артыкул „У згуртаванасці сіла". Разам з журналістам „Нівы" Мацеем Канапацкім апрацавалі мы даклад на арганізацыйны з'езд літаб'яднання, які адбыўся 8 чэрвеня 1958 года ў Беластоку. Старшынёю літаб'яднання выбралі Георгія Валкавыцкага, сакратаром — мяне, а скарбнікам — Мацея Канапацкага. Неадноййчы даводзілася мне ўзначальваць гэтую літаратурную арганізацыю і апрацоўваць даклады з яе дзейнасці.

„Ніва" ў той час знаходзілася ў пастаянных пошуках. Паяўляліся на яе старонках штораз новыя рубрыкі, новыя, цікавыя матэрыялы. Калі я пачаў пісаць сатырычныя вершы, якія друкаваў пад псеўданімам Андрэй Самасей, разам з рэдактарам Валкавыцкім заснавалі мы на апошняй старонцы „Нівы" сатырычную арцель Андрэя Самасея, з мэтай заахвоціць таксама і іншых да пісання сатырычных твораў. Мяне сябры шырэй не падтрымалі і я таксама неўзабаве знеахвоціўся да сатыры.

Вярнуўшыся ў Варшаву як член ГП, сакратар Варшаўскага аддзела БГКТ і адначасова штатны інспектар ГП адказны за працу Варшаўскага аддзела, не парываў я сувязі з „Нівай". Дасылаў пастаянна ў рэдакцыю свае вершы,

**3-я нядзеля Вялікага Посту**

# Крыжапаклонная нядзеля

У 3-ю нядзелю Вялікага Посту Царква экспануе і прадстаўляе духоўнаму зроку вернікаў Крыж Хрыстовы. У палове сумеснага, поснага подзвігу на сярэдзіну храмаў выносіцца для паклanення і духоўнага падбадрэння ўпрыгожаны Святы Крыж. Такім чынам мацней чым калі-небудзь адкрываецца не проста знак або форма, але ўвесь глыбокі змест Крыжа.

У сімвале веры гучаць словы: „Веру... у Ісуса Хрыста, Сына Божага... распятага за нас пры Понцкім Пілаце". У гэтых словах — уся сутнасць хрысціянства. Апостал Павел пісаў: „Мне ж няхай не здарыцца хваліцца, хіба толькі Крыжам Госпада нашага Ісуса Хрыста, якім для мяне свет укрыжаваны і я — для свету" (Гал. 6:14). Моц Крыжа, які быў „глупствам для паганцаў", але натхненнем для тых, хто паверыў, спадарожнічала першым хрысціянам. Знак ганьбы ператварыўся ў знак перамогі, у ахвярны алтар, на якім была прынесена ахвяра выкуплення. Прылада смяротнага пакарання абвясціла свету Божую любоў і дараванне грахоў. Вестка пра гэтае з незразумелай сілай пашыралася і прыцягвала паслядоўнікаў. У адказ на катаванні, здзек і праследаванне, сярод чаду паленых і разрываных звярамі на арэнах целаў, гучэлі словы пакутнікаў: „Вызнаю Хрыста ўкрыжаванага".

Невыпадкова некалькі разоў у год Царква экспануе Крыж, ставячы яго перад абліччам вернікаў. Гэтым самым заклікаецца вернікаў заглянуць унутр сябе, адказаць на пытанне: чым для яго асабіста з'яўляецца Святы Крыж, ці прынамсі ў нейкай ступені Ён ператварыў жыццё? Несумненна, ён павінен быў стаць праваднікоm, акрэсліць ідэалы і стаўленне да жыцця. Для шматкага крыж сапраўды стаў святлом і падмацаваннем у штодзённых клопатах і пакутах. Пасля Вялікай Пятніцы наступіў Вялікдзень, пасля ўкрыжавання — уваскрэсенне. Гэтак і крыж з'яўляецца знакам перамогі над злом у нас самих і ў акружаючым нас асяроддзі, знакам надзеі на канчатковую перамогу дабра і праўды.

Крыж Хрыстовы кліча нас стаць у шэрагі яго вучняў. Чалавецтва падзелена цяпер не меней як тады, калі на Галгофе застукаў молат. Як некалі, так і цяпер, адны верна стаяць ля Крыжа, іншыя, быццам рымскія жаўнеры, насміхаюцца і здзекуюцца над ім. Яшчэ зусім нядаўна былі такія, што зрывалі крыжыкі з дзіцячых шыяў, што ненавідзелі і змагаліся з ім. Засталіся аднак тыя, для якіх гэта звычайна знак, як знак Задыяку на грудзях падлетка; яны абыякава ставяцца і да Крыжа, не ўглыбляючыся ні ў ягоны сэнс, ні змест.

Крыж увайшоў таксама ў гутарковы ўжытак як ідэя, як паняцце цярплівага нясення ўсіх цяжараў жыцця. Наш індывідуальны лёс з пакутамі, няўдачамі і нястачамі, гэта той асабісты крыж, які мы прызваны пакорліва несці. Самаахвярнасць і пакора для няверуючых не мае сэнсу, вернікі абавязаны аднак браць прыклад з Хрыста не толькі ў ламленні хлеба, але і ў горкай чашы пакутаў. Хрыстос заклікае: „Калі хто хоча ісці за мною, хай зрачэцца сябе, возьме крыж свой і ідзе за мною... бо якая ж карысць чалавеку, што ўвесь свет прыдбае, але душу сваю страціць". Зрачыся сябе, значыць адмовіцца ад самалюбства і выгодніцтва; шчасце і гора прымаць проста, як Божую волю, штодзённыя перамогі і бедствы насычаць малітваю „Хай будзе воля Твая".

Крыж надалей з'яўляецца эмблемай найболей высакародных дзеянняў і ідэй. Ён увенчвае мужнасць, патрыятызм і іншыя незвычайныя заслугі. Міжнародны Чырвоны Крыж стаў знакам сусветнай, дабрачыннай арганізацыі, сімвалам бескарыслівай дапамогі бліжнім. Ён таксама з'яўляецца эмблемай сусветнага экуменічнага руху. Пад знакам крыжа ў лодцы плыве да еднасці ў веры некалькі соцень хрысціянскіх цэркваў. Іх раздзяляе другараднае, але Крыж Хрыстовы — аб'ядноўвае.

Усе мы, незалежна ад таго як глыбока ўспрымаем сімвал нашай прыналежнасці да хрысціянства, жывем у цені і атмасферы Крыжа. Ад хрышчэння крыжык павесілі нам на шыі, праз благаславенства рукою маткі на падушцы дзіцяці, праз крыжы на купалах храмаў і пры дарогах ажно па надмагільны крыж — наша жыццё праходзіць у яго прысутнасці. Ён таксама, паводле Свяшчэннага Пісання, закончыць наша зямное паломніцтва і ўсю драму гісторыі, калі пакажацца на нябёсах „знак Сына Чалавечага" (Матф., 24:27).

У Крыжапаклонную нядзелю Царква чарговы раз раскрывае перад намі наш духоўны сцяг, каб мы яшчэ раз заглянулі ўнутр сябе і адказалі сабе на пытанне: чым для нас асабіста з'яўляецца Святы Крыж, ці прынамсі ў нейкай ступені ён адабратварыў нас, ці ператварыў наша жыццё... Магчыма ад нашага сцяга мы ніколі не адракаліся, аднак прынамсі крыху прызабылі яго сапраўдны сэнс. Зараз найлепшы час усвядоміць сабе, каму мы павінны служыць і якімі быць.

**а. Канстанцін Бандарук**

*Івона Марціновіч*

**ГОЛАС ЯЕ...**

*Параскеве прысвячаю*

ён звініць ува мне...
перагукваючыся з маім сэрцам
расчыненым для цябе
слёзы віселі на вейках
ды толькі як не бачыў ніхто
(так мне здавалася)
упэўненая ў сваёй праваце
у святле і ценю
я ўцякала ад самой сябе
проста
нечакана
не шукайце мяне
у любым кутку...
з цямноцча працягну руку
да радасці галасоў
пакуль мяне нясе дыханне жыцця
ён звініць ува мне... ГОЛАС ЯЕ
як глыбокая зорная ноч
ува мне зялёныя цвітуць сады
таму што...
у рысах маіх ТВАЯ ЎСМЕШКА цячэ
твая мне перадалася сіла
бласлаўляю дзень і ноч... і голас яе...



**БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК**

**Jubileusz 40-lecia Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego w ocenie codziennej prasy regionalnej Białegostoku.**

NIKITOROWICZ Zbigniew: Towarzystwo z przeszłością. Na białoruską galę przyjedzie prawdopodobnie premier Włodzimierz Cimoszewicz. *Kurier Podlaski* 12.02.1996 r., nr 30(3250), s. 9.

(jen): Jubileusz BTSK. Przyjedzie premier Włodzimierz Cimoszewicz? *Kurier Poranny* 15.02.1996 r., nr 39(1643), s. 3.

ROSIŃSKI Kazimierz: Na początku była „Niwa". W Polsce tworzenie się czegoś białoruskiego przyjmowane jest jako ingerencja ze wschodu. Na Wschodzie każda inicjatywa białoruska postrzegana jest jako polska intryga. *Kurier Poranny* 17.02.1996 r., nr 41(1645), s. 8, (foto: red. Jerzy Wołkowycki).

NIKITOROWICZ Zbigniew: Jubileusz Towarzystwa. „Mnohaja lieta" odśpiewali Białorusini Włodzimierzowi Cimoszewiczowi. *Kurier Podlaski* 19.02.1996 r., nr 35(3255), s. 1, 8-9, il.

CHOŁODOWSKI Maciej: Premier wzruszył się do łez. Mniejszości dostaną więcej. *Gazeta w Białymstoku* 19.02.1996 r., nr 42(1116), s. 3, il.

(PAP): W atmosferze zrozumienia. Premier Cimoszewicz otrzymał zaproszenie do odwiedzenia Białorusi. *Gazeta Współczesna* 19.02.1996 r., nr 35(13438), s. 1, il.

CHOŁODOWSKI Maciej: Improwizowane rozmowy. Spotkanie władz Polski i Białorusi. *Gazeta w Białymstoku* 19.02.1996 r., nr 42(1116), s. 1, il.

(dc): Zacieśnienie więzów. Wicepremier Białorusi w Białymstoku. *Kurier Poranny* 17.02.1996 r., nr 41(1645), s. 3, il.

NIKITOROWICZ Zbigniew: Spotkanie na przejściu? Pierwsze spotkanie premiera Włodzimierza Cimoszewicza z zagraniczną delegacją (Białorusi). *Kurier Podlaski* 19.02.1996 r., nr 35(3255), s. 8, il.

(Iza): Muzyka i medale. Koncert Galowy Festiwalu Piosenki Białoruskiej. *Kurier Poranny* 19.02.1996 r., nr 42 (1646), s. 8, il.

(kr): Wielka gala Bialorusinów. Jubileuszowe obchody 40-lecia BTSK. *Kurier Poranny* 19.02.1996 r., nr 42(1646), s. 3, il.

(a): Gala z premierem. 40 lat Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. *Gazeta Współczesna* 19.02.1996 r., nr 35 (13438), s. 6, il.

(b): Koncert godny jubileuszu. 40-lecie BTSK. *Gazeta Tygodniowa* 25.02.-03.03. 1996 r., nr 4, s. 1, 2, il.

ROSIŃSKI Kazimierz: Wdzięczność Cimoszewicza. *Kurier Poranny* 19.02.1996 r., nr 42(1646), s. 3.

артыкулы і інфармацыі. Нават працуючы ў 1983 годзе ў Выдавецтве „Прогресс" у Маскве, куды скіравала мяне маё Выдавецтва „Książka i Wiedza", я адтуль пастаянна дасылаў свае вершы. А трэба сказаць, што гэты маскоўскі перыяд майго жыцця быў вельмі плённы. Настальгія па сваёй Малой айчыне — Беласточчыне прымушала мяне пісаць вершы. Прывёз я з Масквы звыш двухсот паэтычных твораў. Нехта з маіх сяброў сказаў, што найлепш мне пішацца ў „ссылцы" і таму добра было б мяне яшчэ недзе выслаць.

Пражыў я сорак гадоў у Варшаве. Нягледзячы на існуючае там малое беларускае асяроддзе, адчуваў я сябе там крыху як у эміграцыі. Найлепш сведчыць аб тым той факт, што амаль усе мае вершы напісаныя ў сталіцы, звязаны з Беласточчынай. З адыходам на пенсію ў 1988 годзе пачаўся мой шлях „рээміграцыі". Я пераехаў на пастаяннае жыхарства ў Беласток. Мой кантакт з „Нівай" стаўся штодзённым.

„Ніва" ў Варшаўскім аддзеле БГКТ была надзвычай папулярным часопісам. У рамках пашырэння беларускага друку ў першую чаргу прапагандавалася „Ніва". Вялася агітацыя сярод членаў БГКТ за яе падпіску. Паасобныя нумары часопіса прадаваліся наведвальнікам клуба. Неаднойчы рабілі мы публічную ацэнку цікавейшых матэрыялаў змешчаных на старонках „Нівы". Адбываліся тут сустрэчы з галоўным рэдактарам „Нівы" Георгіем Валкавыцкім, а таксама з яе журналістамі — Міколам Гайдуком, Мацеем Канапацкім, Уладзімірам Паўлючуком, Віктарам Рудчыкам, Сакратам Яновічам. Заахвочвалі мы членаў Варшаўскага аддзела пісаць у „Ніву" артыкулы і інфармацыі.

Старшыня Варшаўскага аддзела БГКТ Юры Туронак апублікаваў на старонках „Нівы" між іншым такія каштоўныя распрацоўкі як жыццёвы і творчы шлях паэтаў Беласточчыны — нашаніўца М. Арла (Сцяпана Пятэльскага) з Гарадка і Веры Мурашкі (Маслоўскай) з Супрасля, якой вершы з'яўляліся ў беларускім друку ў міжваенны перыяд, Беларуская школа на Свентаерскай вуліцы ў Варшаве ў 1942/43 і ў 1943/44 навучальных гадах і беларускае школьніцтва на Беласточчыне ў часы гітлераўскай акупацыі, пры савецкай уладзе і ў пасляваенны перыяд.

На старонках „Нівы" выступіла са сваімі мастацкімі творамі аж пятнаццаць асоб з варшаўскай літаратурнай групы, якой даўжэйшы час кіраваў Яша Бурш.

Варшаўскі аддзел БГКТ меў у рэдакцыі нашага часопіса такі ранг, што быў тут прызначаны спецыяльны прадстаўнік „Нівы".

Нягледзячы на гэта, што выдаўцом „Нівы" была суполка РСВ, „Ніва" знаходзілася пад пастаянным наглядам Міністэрства ўнутраных спраў і мела яна дзве цэнзуры: агульную — дзяржаўную і ўнутраную — МУС і Ваяводскага камітэта ПАРП. Пасля ліквідацыі РСВ у 1991 годзе спонсарам „Нівы" стала Міністэрства культуры і мастацтва. 4 мая 1992 года зацікаўленыя справай „Нівы" беларускія арганізацыі заснавалі Праграмную раду тыднёвіка „Ніва" — асацыяцыю, якая стала выдаўцом „Нівы". Наш часопіс перастаў быць органам ГП БГКТ. З'яўляюся членам Праграмнай рады ад імя Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Я ўжо не дасылаю, а заношу ў рэдакцыю свае вершы, артыкулы і інфармацыі.

Хачу сцвердзіць, што ўвесь свой жыццёвы і творчы шлях я прайшоў з „Нівай". Ніхто з „белавежцаў" не можа пахваліцца такой як я колькасцю публікацый у нашым часопісе. На падставе зробленай мною статыстыкі вынікае, што апублікаваў я на старонках „Нівы" і „Зоркі" тысячу дзевяцьсот вершаў. Не падлічыў я, колькі надрукавана ў „Ніве" маіх матэрыялаў журналісцкага характару. Магу толькі сказаць, што напэўна многа. Адным словам статыстычна беручы дагэтуль паявілася больш маіх публікацый, чымсьці выйшла з друку нумароў „Нівы". „Ніва" на працягу саракагоддзя сваёй дзейнасці фарміравала мяне і тысячы верных яе чытачоў як свядомых беларусаў.

Запэўніваю маіх дарагіх сябровак і сяброў, журналістаў і працаўнікоў „Нівы", што маё супрацоўніцтва з нашым штотыднёвікам будзе працягвацца як дагэтуль праз усё маё жыццё.

Віншуючы рэдакцыйны калектыў з саракагоддзем „Нівы", жадаю яму ўсяго найлепшага, далейшай плённай працы і новых юбілеяў.

**Віктар Швед**

**„Наша вёска Паўлы ўсюды стае слаўна..."**

# У Паўлы на запусты

Калі, павярнуўшы ў Рыбалах з добрай дарогі, што вядзе на Бельск, — налева, на вёску Паўлы, „Паланез" Ваяводскай управы засеў у снезе, быў момант, што я засумнявалася: нашто было рабіць людзям столькі клопатаў?!.

А было так, што сустрэўшы ў Міхалове жанчын з паўлаўскага калектыву, я ледзь паспела сказаць, што выбіраюся да іх, каб напісаць пра іх поспехі ў фальклорнай песні, як далучыўся да мяне дырэктар Аддзела культуры і спорту Казімеж Дэркоўскі: „О-о! У Паўлы едзем, едзем!" Ну, кажам, прыедзем 27 лютага, так нам выпадае. Бабкі ўзмаліліся: прыязджайце, кажуць, але да 25 лютага, бо будзе пост. А на Фестывалі беларускай песні сказалі канкрэтна: прыязджайце дваццаць пятага, дык адсвяткуем разам запусты! Запрасілі гасцей: і з Беларускага таварыства, і з, ВААКу, і з Таварыства Польшча — Усход, і тых, што ім умеюць і хочуць даць нейкія рады, нешта падказаць.

Такія ўжо яны баявітыя, гэтыя жанчынкі з Паўлаў. Не толькі праца ў іх руках спорыцца, ды спяваць умеюць: што яны сказалі — **закон**.

Дырэктарскі „Паланез" даў газу назад, а я кажу: едзем да бацюшкі Сасны, ён нам напэўна дапаможа! Мо санкі нейкія знойдуцца. Мусім жа быць сёння ў Паўлах!

Праўда, бацюшка, прыгразіўшы нам, каб гэта было апошні раз (добрыя людзі ў нядзелю павінны ўжо думаць пра пост), зараз жа пазваніў у Паўлы, што мы ў яго, а яны прыслалі нам „Ныску" з ВААКу, якая без перашкод раней за нас дабралася праз засыпаную снегам дарогу да Паўлаў. На ўсякі выпадак, калі б і „Ныска" засела ў снезе, далі ў дапамогу шаферу яшчэ Сцёпу Копу і Юзка Зыська. І не памыліліся.

Ад'ехаўшы з паўтара кіламетра — стоп! Пасярэдзіне дарогі стаіць белая „Таёта". Мужык і жонка змагаюцца лапатаю са снегам, пхаюць самаход, а ўсярэдзіне двое дзетак. Наш шафёр прыпыніўся, чакае. Я гляджу: гэта ж Юрка Андраюк з „Ортдруку"! Паночкі, кажу, трэба выходзіць і памагаць, можа будзе скідка на друкаванне „Нівы"! Чацвёра нашых спадарожнікаў (мы з Барбарай Чыжэўскай сядзімо ў „Нысе") адкопваюць і выпіхаюць Андраюкову „Таёту".

З'ехаўшы на бок, заселі самі. Адкапаць сябе было ўжо лягчэй. Побач, як бы ніколі нічога, праплыў нагружаны рэйсавы аўтобус.

Даехалі ў Паўлы амаль з гадзінным спазненнем. Ужо нас чакалі з нецярплівасцю (адзначу, што паўлаўскі спявачы калектыў рыхтуецца да „хрысцін" калектыву, а дырэктар ад культуры ў такой справе — немалаважная персона).

У даволі цесным клубе сцэна сёння ўпрыгожана вышыванымі ручнікамі, візіць на сцяне, як заўсёды, розныя дыпломы, якія атрымалі раней за сцэнічную творчасць і пазней за фальклорныя песні самадзейнікі з Паўлаў.

Паўлаўскія людзі сваю самадзейную творчасць пачыналі ад драматычнага гуртка і найперш расславілі сваю вёску тэатральнымі пастаноўкамі, якія неяк няшмат ставіліся на Бельшчыне. А сёння вось больш спяваюць.

Праспяваўшы некалькі сваіх песень (тыя, што на ўласныя словы — піша іх 75-гадовая Анна Раманюк, ды тыя іншыя, што спяваюць тутэйшыя сяляне), Анна Раманюк — яна і сёння вядзе праграму — загадвае: „Не разыходзьцеся! Марыя Іванюк зараз выканае песню „Ціхі вечар", а мы падрыхтуем „Пакудзелле"!

Сабраныя вяскоўцы і госці з асалодай слухаюць прыемны голас салісткі калектыву. Неспадзявана гасне святло, а Марыя Іванюк, быццам бы нічога не здарылася, прадаўжае спяваць упоцемку. У Шапятове, кажа вядучая Анна Раманюк, як згасла, дык „свічок наготовілі". Зараз і ў нас будуць, падказвае нехта. Марыя далей спявае.

Ліда Андраюк прыносіць чатыры свечкі, дзве ставіць на стале, дзве — на печы. Нехта падае свечку на сцэну. Марыя спявае пра „арэнбургскі пуховы платок".

Паявіліся тры лямпы, павесілі іх на сцэне. Хтось канстатуе: „Думалі, каб усё было, як калісь, дык і ёсць так..."

У „хаце" Анны Раманюк збіраюцца кудзельніцы. Ідуць са сваімі калаўротамі — „куолкамі", талькамі для наматвання нітак. Гаспадыня падганяе да работы. Звычайная размова пра хатнія справы, пра мужоў, пасля жанчыны, прадучы, спяваюць. Гаспадыня нарыхтоўвае ім лён. „Кепскавата лён чысцілі, — сцвярджае яна. — А вон часом трушчы, а часом нэтрушчы". Не бяда! У жанчын усё выходзіць добра: і лён, і воўна, і нават бачу, што хтось наматвае... аніляну.

Круцяцца калаўроты і талькі, а Анна Раманюк пачынае рыхтаваць вячэру. Трэ ў макотры мак, укідае ў яго галушкі, пасля доўга трасе іх, „бо на споді лепшы". Хуценька накрывае стол льняным абрусом, ставіць гліняную міску з галушкамі і другую міску „з навараным пастарнакам". Паяўляецца на стале і бутэлька, і кілішак. Гаспадыня выпіла першая, наліла ў той жа кілішак другой жанчыне. Тая, выпіўшы, — наступнай і гэтак далей.

„Ой, тёто, мало мы вам напрадэм!" — кажа адна з кудзельніц. „То што, шчэ другі раз прыдэтэ!" — супакойвае іх гаспадыня. Жанчыны ядуць галушкі з макам, запіваюць „пастарнакам". Пасля частуюць тымі галушкамі ўсіх прысутных.

Стол хутка прыбраны, кудзельніцы зноў сядаюць да работы.

Праўду кажучы, то пілі кампот з парэчак (а мо і трускалак, прамысловым вырошчваннем якіх займаюцца паўлаўскія гаспадары), а не з пастарнаку. Маладыя радны Вітальд Галубоўскі растлумачыў мне, што калісьці гэту расліну выкарыстоўвалі ў іх для кампотаў, бо яна мае ў сабе шмат цукру. Але толькі Марыя Іванюк-другая памятае, як выглядала гэта расліна. Падобная яна была на хрэн, сказала яна, і была вельмі салодкая. Сёння яе ў Паўлах ніхто не садзіць.

Але і так дырэктар Дэркоўскі сказаў, што быў гэта **вечар праўды, вечар маладосці**. А Барбара Чыжэўская, віцэ-прэзас таварыства Польшча — Усход, шапнула мне: „Усё, як у нас, у Яжэве, хаця яно і ў іншым баку: і колкамі калаўроты называюць, і мак таксама труць. Колькі я яго ў макотры перацерла! У свой час нават перастала любіць мак! А галушкі, я ведаю, яны робяць, як і ў нас: з бульбы і мукі".

Паўлаўскія жанчыны арганізаваліся ў калектыў два гады таму, а ўжо зайшлі далёка. У мінулым годзе ў аглядзе калядных калектываў у Драгічыне, побач з „Красунямі" з Краснага Сяла, аказаліся найлепшымі сярод беларускіх калектываў і выступілі сёлета ў Шапятове на міжваяводскім аглядзе.

Паўлаўскі калектыў таксама вельмі добра паказаўся на раённым аглядзе „Беларускай песні'96", заняў там першае месца сярод фальклорных калектываў і быў выбраны на фестывальнае выступленне. На Фестывалі беларускай песні атрымаў сёлета спецыяльную ўзнагароду за ўласную творчасць. Паўлаўскім жанчынам усё гэта належыцца. Сёння ўжо спявае ў калектыве 9 жанчын: Анна Раманюк, Марыя Іванюк, Вера Харытанюк, Надзя Харытанюк, Ліда Андраюк, Надзя Раманюк, Марыя Харытанюк, Ніна Філіпюк і Марыя Іванюк-другая.

А ці чытаюць у Паўлах „Ніву"? — О, у нас „Ніва" ідзе ў рух! Усё чытаем, не даруем! Часамі, як мой экземпляр зачытаем, знішчым, дык мужык у хаце сварыцца... — пераконвае мяне Марыя. Пётр Іванюк, яе муж, слухае, ківае галавой і ўсміхаецца.

**Ада Чачуга**

**Фота аўтара**



*Паўлаўскія спявачкі „калядуюць" на сцэне Міхалоўскага дома культуры.*

# Суды і злачынцы

Штодзённыя газеты пастаянна інфармуюць пра злачынствы, якія амаль кожны дзень здараюцца на Беласточчыне. Толькі нейкія асаблівыя выпадкі на даўжэй прыцягваюць увагу сродкаў масавай інфармацыі, звычайным забойствам прысвячаецца найчасцей пару слоў інфармацыйнага характару. Апошнім часам прэса шмат пісала пра маладую жанчыну, якая, нарадзіўшы дзіця, пакінула яго на гарадскім сметніку. У гэтай справе шакіруе асаблівае тое, што „дама", пакінуўшы свае нованароджанае дзіця на халодная зямлі вечарком, выбралася на патанцоўку. Зацікаўленне беластоцкіх журналістаў выклікала таксама забойтсва, дзе ахвярай быў бацька злачынцы. Забойца пасек свайго бацьку на кавалкі і рыхтаваўся відаць параскідваць яго астанкі ў розных месцах.

У Лодзі, напрыклад, прэса жыве справай маладых бандытаў, якія ўдзень паводзілі сябе як нармальныя людзі — працавалі, сустракаліся з сябрамі, клапаціліся сямейнымі справамі, а ноччу пераўтвараліся ў бязлітасны вылюдкаў. З прыемнасцю падрэзвалі горлы тым, якія не хацелі добраахвотна аддаць грошай, вопраткі ці іншых прадметаў якіх ад іх патрабавалі.

Але ў кожным горадзе час ад часу здараецца нешта такое, чаго, як, здавалася б, чалавек не быў бы ў змозе зрабіць. Але толькі звер забівае тады, калі ён галодны.

Ваяводскі суд у Беластоку ў студзені пачаў разглядаць справы, якія праўдападобна не выклічуць зацікаўлення сродкаў масавай інфармацыі, хаця кранаюць яны здарэнняў, у выніку якіх загінулі людзі. Для прыкладу: Веслаў В. так скатаваў нагамі свайго знаёмага, што той ад гэтага памёр; Збігнеў Л. адным ударам кулака забіў сваю жонку; Гражына В. забіла сваё нованароджанае дзіця; Артур В. і Тамаш З. нажамі парэзалі Кшыштафа Б.; Аляксандр М. малатком забіў Мікалая С.... Гэтыя і падобныя справы суд толькі пачынае разглядаць. Праз год ці два будзе вядома, які прысуд атрымаюць злачынцы.

Як вядома, забойцы знаходзяць цяпер асаблівае зразуменне ў праваахоўных органах. Псіхіятры, псіхолагі, філосафы, сацыёлагі даказваюць найчасцей, якое цяжкае дзяцінства меў забойца, што ахвяра непатрэбна падлезла яму пад рукі, што абвінавачаны не кантралюваў сваіх нерваў, што саромеецца сваіх чынаў. Часам, калі слухаеш адвакатаў, хочацца нават заплакаць над цяжкім лёсам злачынцаў і ледзь чалавек не паверыць, што ўсяму вінаватая ахвяра бо чамусьці памерла, напрыклад, ад удару сякеры. Пэўна такія самыя ўражанні маюць суддзі, якія вырашаюць пра велічыню кары. Здараецца, што за забойства можна атрымаць лягчэйшую кару, чым за выпіўку ў месцы працы. Як жа здзівіўся бацька замардаванай два гады таму ў Беластоку 18-цігадовай дзяўчыны, калі пабачыў яе забойцу ў вясёлым настроі ў цэнтры горада. Аказалася што малады бандыт з увагі на добрыя паводзіны атрымаў 10 дзён водпуску.

У студзені Ваяводскі суд у Беластоку закончыў разглядаць некалькі спраў, дзе маладыя людзі былі абвінавачаны ў гвалце. Тамаша Я. і Мірослава Ж., якім па 18 гадоў, суд пазбавіў свабоды на 2 гады за шматразовы гвалт на выпадкова сустрэтай дзяўчыне. Адвакаты абвінавачаных не пагаджаюцца з прысудам і заявілі, што будуць змагацца за палягчэнне кары. Пётр М. і Артур Б. атрымалі за падобнае насілле па 5 гадоў кожны. Былі не толькі больш брутальныя, але таксама старэйшыя за „герояў" папярэдняй справы. Яны таксама адчуваюць сябе пакрыўджанымі і будуць апеляваць да вышэйшых судовых інстанцый.

Здаўна аднак вядома, што кара ў вялікай ступені залежыць ад сумы, якая трапляе ў кішэню адвакатаў.

**Васіль Кургановіч**

# Позірк у мінулае

**17 сакавіка**

1834 г. — нар. Готліб Даймлер, нямецкі канструктар, заснавальнік фірмы „Даймлер-Бенц”.

1861 г. — паўстала каралеўства Італіі.

1921 г. — польскі сейм прыняў новую канстытуцыю.

1941 г. — у Вашынгтоне адкрыта Нацыянальная галерэя мастацтваў.

1992 г. — белае насельніцтва ПАР выказалася ў рэферэндуме за палітыкай рэформаў прэзідэнта дэ Клерка.

**18 сакавіка**

1584 г. — памёр першы расейскі цар Іван IV Жахлівы.

1662 г. — у Парыжы ўведзена першая лінія гарадской коннай камунікацыі.

1918 г. — Рада Кангрэсу Беларусі пераменоўваецца на Раду Беларускай Народнай Рэспублікі.

1921 г. — крывавае пакарэнне паўстання матросаў Краншштата супраць бальшавіцкае ўлады.

1921 г. — у Рызе падпісаны мірны дагавор паміж Польшчай і Расеяй.

1936 г. — нар. Фрэдэрык дэ Клерк, паўднёваафрыканскі палітык.

1952 г. — у Філадэльфіі (ЗША) акуліст Уорэн Снэйдэр аб’явіў патэнт на пластычныя лінзы.

1965 г. — савецкі касманаўт Аляксей Ляонаў упершыню пакінуў касмічны карабель „Васход-2” і прабываў у адкрытым космасе 10 мінут.

1966 г. — Кангрэгацыя п/с веры Ватыкана аб’явіла, што каталікі, якія спраўляюць некаталіцкі шлюб, не будуць адлучацца ад Касцёла.

**19 сакавіка**

1813 г. — нар. Дэйвід Лівінгстан, англійскі падарожнік-даследчык.

1951 г. — у Парыжы прадстаўнікі Францыі, ФРГ, Італіі, Бельгіі, Галандыі і Люксембурга заснавалі Еўрапейскую супольнасць вугалю і сталі.

**20 сакавіка**

1767 г. — Слуцкая канфедэрацыя дамагаецца адмены дыскрымінацыйных норм у адносінах да праваслаўных і пратэстантаў.

**21 сакавіка**

1609 г. — нар. Ян Казімір, польскі кароль.

1685 г. — нар. Іаган Себасцьян Бах, нямецкі кампазітар.

1840 г. — нар. паэт Францішак Багушэвіч.

1768 г. — нар. Жан Фур’е, французскі матэматык.

**22 сакавіка**

1832 г. — памёр Вольфганг Гётэ, нямецкі паэт.

1945 г. — заснаванне Арабскай лігі.

1963 г. — ансамбль „Бітлз” выпусціў свой першы альбом.

1965 г. — Нікалае Чаўшэску выбраны на пост генеральнага сакратара ЦК Кампартыі Румыніі.

**23 сакавіка**

1912 г. — нар. Вернер фон Браўн, нямецка-амерыканскі фізік.

1925 г. — нар. паэт Віктар Швед.

1939 г. — нямецкія войскі занялі Клайпеду.

1978 г. — памёр музычны дзеяч Рыгор Шырма.

**(Ш)**

# Крыжаванка

**Гарызантальна:** 3. фінансавая ўстанова, 8. горы ў Азіі, 9. хуткае, ажыўленае выкананне музычнага твора, 10. першы злачынца, 11. пачатак спаборніцтва, 13. верхняя, саламяная частка будынка, 15. сукупнасць прылад, 16. член органа тэрытарыяльнага самакіравання, 20. паўднёваамерыканская рака, 22. Ян Клеменс, гетман каронны, заснавальнік Беластока, 23. мяккая, варсістая баваўняная тканіна, 27. дарога, абсаджаная дрэвамі, 29. від папугая, 30. славуты рымскі імператар, 31. заклік, 32. прылягае да шыі, 33. выбуховае рэчыва, 34. усходні ўладар.

**Вертыкальна:** 1. адзінка будовы жывога арганізма, 2. Джордж Гордан, англійскі паэт (1788-1824), 4. булачны выраб у форме кольца, 5. правіцыя ў Паўночным Кітаі, 6. паласатая жывёла, 7. перавозка грузаў водным шляхам, 12. паўднёваамерыканская выспа, 14. жазло з трыма зубцамі, 16. жыве ў вадзе, 17. від музыкі з перавагай духавых і ўдарных інструментаў, 18. перапрэлая сумесь подсцілу і памёту, 19. драпежная начная птушка, 21.паўночнаамерыканская рака, 24. арганічная вадкасць, растваральнік, 25. нямецкі мастак (1472-1553), 26. будынак для машын, 27. імя Сухоцкай, 28. горад у Балівіі.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 4 н-ра:**

**Гарызантальна:** малако, рубель, Казань, маса, рата, балюстрада, мука, Рыга, аркада, раскол, ліхтар.

**Вертыкальна:** Манама, кока, рунь, льгота, забастоўка, сабака, Радары, муштра, ганчар, арол, Далі.

Кніжныя ўзнагароды атрымліваюць: **Анна Байко** з Белавежы і **Лявон Федарук** з Рыбалаў.

# Вер-не-вер

Астронку, даражэнькі, мне прысніўся паскудны сон. Мы з мамай знаходзімся ў нейкай прыморскай мясцовасці. Ходзім па пляжы, чуем шум мора. Мора мы аднак не бачым, бачым толькі пляж, мноства-мноства пяску. Нідзе не бачым мы людзей. Пуста, сядай — дзе хочаш! Мы вырашаем сесці і пагрэцца на сонцы, але заўважаем, што на месцы, якое мы выбралі, закапаны здохлы сабака. Тады мы змяняем месца, але і на другім месцы таксама бачым закапанага здохлага сабаку. Сядаем на трэцяе, чацвёртае месца, а ўсюды пад намі аказваюцца закапаныя ў пяску здохлыя сабакі. Дык я, калі прачнулася, падумала, што чакае мяне ці маму нешта кепскае. Ці праўда гэта?

**Ірэна**

Ірэна! Сабака гэта адвечны прыяцель чалавека, яго адданы сябра, служка. Але сабака можа быць і вельмі небяспечны, калі вышчарыцца на незнаёмага ці чужога.

Таксама і ў сне. Я ўжо нават пра гэта пісаў не адзін раз: калі прысніцца сабака спакойны, які лашчыцца да цябе, значыць ёсць у цябе верныя, адданыя сябры, на якіх заўсёды можаш разлічваць, ды ніхто да цябе не настаўлены варожа, а, зрэшты, ніякі вораг табе не страшны.

Калі ж прысніцца сабака, які нападае на цябе, так і знай, што ёсць у цябе лютыя ворагі, якіх ты павінна сцерагчыся ды ўцякаць ад іх як мага далей.

Ірэна! У тваім сне паявіліся нетыповыя сабакі: яны былі здохлыя, ды паяўляліся ўсюды, дзе вы з мамай хацелі сесці. У мяне ўзнікла такая асацыяцыя, што так, як гавораць, што нехта падложыць табе свінню, дык у сне табе (а мо хутчэй тваёй маме, бо чаму меналвіта вы з ёю выбіралі тое месца на пляжы?) нехта падкладаў здохлых сабак. Думаю, што ў даным выпадку гэта тое самае. Сцеражыцеся сваіх сяброў!

**Астрон**

# Сакавік

Ящчэ кароткі зімовы дзень. Сонца, нізка і хутка пракаціўшыся па небе, раскідвае на снезе доўгія густыя цені. Пад вечар ціснe „добры” маразок. Зіма пакуль не здаецца.

Сакавік першы месяц вясны. Пачынаецца рух сокаў у дрэвах — адсюль і яго назва. У сакавіку сонца праходзіць праз пункт веснавога раўнадзенства, яго вышыня над гарызонтам на сярэдзіне месяца 33,9°. Дзень большы ад самага кароткага амаль на 5 гадзін. Парушаецца ўстойлівае снегавае покрыва і канчаткова сходзіць праз 10—15 дзён. Бягуць шматлікія ручаі, расталыя воды выклікаюць бурнае разводдзе на рэках. Пасля раставання снегу прагравающца глеба і ніжні слой паветра. Звычайна ў гэтым месяцы сярэднясутачная тэмпература паветра пераходзіць праз 0° С у бок павышэння. Адносная вільготнасць паветра складае 76—82%; колькасць вільготных дзён 8—13.

У сакавіку вясна ля парога. Вярба іграе аранжава-жоўтым, ракіта — ружова-чырвоным, асіна — шэра-зялёным адценнямі. Нас вабіць злёгку затуманены змрояй фіялетавы, трохі шэры свет. Ужо чуюцца новыя сілы ўзраджэння. I хай ящчэ халаднавата — ужо працінаецца крамянае разнаквецце сцёблаў і галін. На голых раслінах прабіўся вясенні „загар”. Загар — прадвеснік майскага бурнага росквіту.

**Янка Целушэцкі**

# Парнасік

### Ворагі

Ворагаў было ў нас мала,
Усе на захад уцяклі,
Супраць нас там працавалі,
Каб дзяржаву нам разбіць.
А цяпер, браточкі мілы,
I на захад, і на ўсход
Ворагі кругом паўсталі.
Гэтак кажа наш урад.
На ўсходзе пачынаюць
Абарону будаваць.
Беластоцкую брыгаду
Будуць мадэрнізаваць.
У калгас каля Трасцянкі,
Пустазеллем што аброс,
З планамі, мабыць, прыедзе,
Нашых стратэгаў са сто.
I выкасяць пустазелле,
Каб лётнішча збудаваць.
А ў аўчарнях, што пустуюць,
Ангары паразмяшчаць.
Там „Ірыду” жа паставяць,
„Сокал” сам туды ўляціць.
Кошты будуць невялікі,
Будзем жыці без бяды.
А ў „Пронары”, што ў Нарве,
Калі цэх перарабіць,
Замест трактароў сялянам,
Можна танкі выпусціць.
I ў Гайнаўцы, у „Хімічнай”,
Што суполка узяла,
Хочуць усё перамяніці,
Каб „Першынгі” будаваць.
Мая думка ёсць такая:
„Трэба ўсё перарабляць,
Бо як Жырыноўскі стрэліць,
У зелле голаў не схаваць”.

**Мікалай Лук’янюк**

### Вада

Без вады няма
жыцця на зямлі.
Вада дае нам яду.
Часта адбірае жыццё.
Хавае ў глыбінах
акіянаў судны.
Залівае вясной палі.
Вада — грозная стыхія.
Плаціна не заўсёды
яе абсцсліць.
Вада страшыць нас,
дае ўсяму жывому жыццё.
Пераканаецца той,
хто ў спякотны дзень
не мае з сабой бутэлькі вады,
ці халоднага напітку.

**Аўрора**


# Ніва

**„Niwa”**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: „ORTHDRUK”, Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові́ч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.**
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1996 r. upływa 5 czerwca 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 9,10 zł (91000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Хто гэта можа быць

Адзін з найбольшых ён мудрэц,
Адзін з найбольшых ён і спец,
Усё ён знае напралёт, —
Партыйнай школы патрыёт.
Адзін з найбольшых — славянін,
Ён быццам цар гэтых краін,
Ён хоча па-старому жыць,
Каб зноў імперыю стварыць.
Свой парадак ён заводзіць,
Свае сімвалы уводзіць
На той стары савецкі лад,
Хоча стварыць і свой урад.
Дабраў паслушну вертыкаль,
Яе работа — сорам, жаль,
Народ стогне, наракае,
А дыктатар пагражае.
Ён не любіць роднай мовы,
Беларусь прадаць гатовы,
Абяцаць, крычаць умее,
А зрабіць што — не сумее.
Не запусціў ён заводы,
Адабраў людзям ільготы,
Дарогу выбраў у бездань
І на вачах тоне у твань.
Па слядах Адольфа крочыць,
А людзям галовы мрочыць,
Сёння кажа „не", заўтра „так",
Як той камэдыян, дзівак.
Народ слухае цярпліва
І чакае таго жніва,
Што прынясе ім „бацька" ў дар,
Народам выбраны ўладар.
Усюды любіць дыктаваць,
Свае указы выдаваць,
Дык хто ж ён за такі адзін,
Што ёсць „товарищ — господин"?

**Ю. В.**

# Сентэнцыі

Слова айчына баламутнае ў вуснах калабарацыяніста.

*

Стаўшы на дыбачкі, душы не ўбачыш.

*

Там свет, дзе я.

*

На хмару аркан не накінеш.

*

Падаграваючы ваду, катка не збудуеш.

**Барыс Руско**

# НІЎКА




*Мал. Л. Разладава*

### З нашага жыцця

Зайшоў муж у бар. Заказаў піва. Выпіў. Заказаў другое. Калі пачаў піць чацвёртае, да яго прыселіся сябры. Агледзеўся назад і ўбачыў сваю жонку. Яна разам з мужчынамі піла піва. Злосны падышоў да жонкі:

— Што ты тут робіш? Чаму не сядзіш дома і дзяцей не глядзіш?

— Ты мне заўсёды паўтараў, што добрая жонка павінна слухаць мужа і рабіць тое, што і ён. Я пачала гэтак рабіць ад сёння, — з салодкай усмешкай адказала жонка.

* * *

— Не ідзіце, дзяўчаты, замуж, — гаворыць сяброўкам Аня. — Замужам дрэнна: трэба ўсім дагаджаць ды цяжка працаваць. Толькі дай Божа, каб выйшлі я і мая сястра.

* * *

— Атава вырасла нядрэнная, — кажа Антось суседу. — Нашы лугі па-суседску, давай будзем сабе памагаць.

— Давай, — згадзіўся Міхась, — будзем разам працаваць.

— Тады будзе так: спачатку ўбяром атаву маю, а пасля кожны сам сваю ўбіраць будзе.

* * *

— Што чорнае пятнаццатага і першага кожнага месяца ляжыць каля плота?

— П'яны чыгуначнік у форме.

* * *

Перад шлюбам:

— Кахаю цябе і заўсёды будзеш для мяне найпрыгажэйшая і наймудрэйшая.

Год пасля шлюбу:

— Кахаю цябе. Ніхто не мае такой жонкі, як я.

Дзесяць гадоў пасля шлюбу:

— Ненавіджу цябе! Навошта браў я цябе за жонку!? Ты ж да людзей непадобная.

**Аўрора**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

**"Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка**

Паліцыянт затрымоўвае ў горадзе самаход, які вядзе жанчына:

— Вы перавысілі шасцідзесятку!

— Што вы! Гэта мой капялюш так мяне пастарыў.

* * *

Паліцыянт затрымоўвае едучы зігзагам аўтамабіль:

— Пан шафёр, трэба будзе выканаць алкагольны тэст.

— Цудоўна! А з якога рэстарана пачынаем?

* * *

Замежны турыст падыходзіць да двух варшаўскіх паліцыянтаў і пытае па-англійску пра дарогу. Тыя разводзяць рукі — нічога не разумеюць. Турыст звяртаецца да іх чаргова па-французску, па-нямецку, па-іспанску. Усё дарэмна. Калі чужынец пайшоў, кажа адзін з іх:

— Ты, Фэлек, трэба ўзяцца за навуку замежных моў.

— Навошта? Гэты ведаў чатыры і да нічога яму гэта не прыдалося.

* * *

Позняй ноччу паліцыянт затрымоўвае п'янага:

— А куды гэтак вандруеце?

— Іду выслухаць пропаведзь.

— А хто ж у тры гадзіны ночы гаворыць пропаведзь?

— Мая жонка.

* * *

Сустракаюцца два сябры:

— Чаму ты такі маркотны? Што здарылася?

— Зуб баліць, ніякія таблеткі не памагаюць.

— Маю на гэта эфектыўны спосаб: распранаю жонку, прытуляю шчаку да яе грудзей і цяпло ўтаймоўвае боль.

— Гэта надзвычайны спосаб. Трэба і мне яго прымяніць. Ці твая жонка цяпер дома?

* * *

Касцельны падчас імшы ходзіць з тацаю для ахвяр. Падпіты Коля дастае грошы і кідае на тацу. Імша закончылася. Усе расходзяцца, толькі Коля не думае выходзіць.

— Імша ўжо скончылася, — падходзіць да яго касцельны.

— Ну і што! Даў складчыну і цяпер чакаю бутэльку.

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Не ведаю ўжо сама, як лепш. Парай, растлумач! Мы з маім хлопцам пачалі хадзіць яшчэ ў школе. Разам выехалі пасля матуральнага экзамена ў Варшаву. Там паступілі ў вышэйшыя школы: я — ва універсітэт, а ён — на політэхніку.

Хлопец быў маім першым мужчынам, я аддалася яму не толькі душою, але і целам. Хаця, аднак, мяне агарнула шалёнае каханне, я не магла выйсці замуж, паколькі трэба было яшчэ шмат вучыцца. Бацькам маім хлопец падабаўся, але яны сказалі: выправім вяселле, дамо пасаг, але ўсё гэта пасля школы. Мусіш мець адукацыю, каб быць у жыцці незалежнай.

Ну, і так імкнулася я да тае незалежнасці, спатыкаючыся з маім хлопцам пацішку, каб не было ў пакоі дзяўчат, бо жылі ж мы ў пакоі ўчацвярых.

Хачу табе прызнацца, Сэрцайка, толькі табе, што маё каханне з гадамі не гасла, а ўсё больш і больш разгаралася. Я ўжо не магла жыць без яго, думала пра яго нават тады, калі сядзела на занятках ці гартала падручнікі. У пэўным момантце я заўважыла, што мне гэта пачало перашкаджаць. Нечага не залічыла, не здала нейкага экзамена, а пасля давялося пераздаваць. Нарэшце здарылася найгоршае — я не перайшла на чацвёрты курс і давялося паўтараць трэці.

Я была ў роспачы. Што скажуць бацькі? Усё ж гэта дадатковая страта грошай, якіх у бацькоў лішне не было. Але неяк усё гэта перажыла. Бацькі даравалі, і я вучылася далей.

Тым часам мой хлопец скончыў вучобу і пачаў працаваць у Беластоку. Знайшоў добрую працу ў будаўнічай фірме. Я прыязджала ў Беласток мо раз у месяц. Хаця паязды хадзілі добра, дык такое падарожжа нямала каштавала, ды свабоднага часу не было занадта многа. Я не рвалася дахаты, каб ягоправяраць, кантраляваць, а толькі таму, каб убачыць яго, прытуліцца, пагаварыць.

Шлюб мы вырашылі ўзяць адразу пасля таго, як я закончу вучобу. Бацькі сказалі, што зробяць нам вяселле на сто чалавек у верасні. Ужо нават многіх аб гэтым папярэдзілі. Каб хаця хтосьці некуды не выехаў. Мама шукала добрую краўчыху, каб пашыць мне сукенку.

З дыпломам магістра я, шчаслівая, вярнулася дахаты. Нарэшце свабода! Больш не мушу сядзець над кніжкамі. Хацелася адпачыць, паехаць з хлопцам на рэчку, пахадзіць па парку.

Мінуў тыдзень, калі пазваніў той няшчасны тэлефон. Незнаёмая дзяўчына спытала, ці не магла б я сустрэцца з ёю. Не хацела сказаць, што ёй ад мяне трэба. Маю важную справу, толькі канстатавала яна.

Сустрэліся мы ў парку. Селі на лавачку. Дзяўчына ўся трэслася, як у ліхаманцы. Плакала, гаварыла нервова, спяшалася. Цэлы год, кажа, жыла з ім (маім хлопцам) як жонка з мужам. Ніколі нават адным словам не прагаварыўся, што ёсць у яго дзяўчына, з якой збіраецца жаніцца. Здавалася ёй, што ён закаханы ў яе па самыя вушы. А вось жа ўчора прызнаўся, што жэніцца. Не можа яна перанесці гэтага сораму: усе ж у фірме лічылі іх закаханай парай. Увесь час былі яны разам. Як жа ёй цяпер быць?

Мяне даслоўна заткнула. Я не магла прамовіць ніводнага слова. А як жа мне быць? „Мой" хлопец нават віду не падаў, што нешта ў яго жыцці здарылася. Разам мы пачалі рыхтавацца да вяселля. Калі я яму сказала пра візіт тае дзяўчыны, ён проста замоўк і, не адазваўшыся, выйшаў з маёй хаты.

Не хачу яго больш бачыць і чуць. Сталі мне агідныя ўсе мужчыны. Але мо, калі б узялі мы шлюб раней, усё было б у парадку. Як ты думаеш, Сэрцайка, мог бы быць з яго яшчэ муж?

**Ёля**

Ёля! Муж то мог бы быць, але які, вось пытанне. Калі мае такія схільнасці, дык пасля шлюбу мог бы зрабіць тое самае, што зрабіў і перад шлюбам. Дастаткова, каб трапіў у спрыяльныя акалічнасці. Дык мо і хопіць ужо табе яго, нагулялася. Крыху адпачні, а пасля ўбачыш. Знаёмым, якіх вы ўжо запрасілі на вяселле, скажы, што перадумала.

**Сэрцайка**